


# КЛАСІКА

Вінцэнт ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

## ПІНСКАЯ ШЛЯХТА



Кастусь ВЕРАНІЦЫН

## ТАРАС НА ПАРНАСЕ

*Да 200-годдзя з дня нараджэння*
*Вінцэнта* ДУНІНА - МАРЦІНКЕВІЧА

# КЛАСІКА

## Вінцэнт ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ
## ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

*аўтэнтык, беларуская, англійская, нямецкая, польская, руская мовы*

---

## Кастусь ВЕРАНІЦЫН
## ТАРАС на ПАРНАСЕ

*беларуская, англійская, балгарская, іспанская, нямецкая, польская, руская, украінская мовы*

*Укладальнік*
***Язэп Янушкевіч***

*Мінск*
*Выдавец Віктар Хурсік*
*2008*

УДК 821.161.3 (Дунін-Марцінкевіч+Вераніцын).02
ББК 84(4Бел)
К47

К47 **Класіка:**В.Дунін-Марцінкевіч.Пінская шляхта: аўтэнтык,бел.,англ., ням., поль.,рус.мовы; К.Вераніцын.Тарас на Парнасе: бел.,англ.,балг., ісп.,ням., поль.,рус.,укр.мовы/Уклад., агул. рэд., прадм. Я.Янушкевіча.— Мн.:Выд.В.Хурсік,2008.—240с.
ISBN 978-985-6718-90-1

Выданне прымеркавана да 200-годдзя з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884).

Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая частка — камедыя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», другая — паэма «Тарас на Парнасе», найбольш верагодны аўтар якой Кастусь Вераніцын (1834—1904).

Творы падаюцца як на беларускай мове, так і ў перакладах на еўрапейскія мовы.

821.161.3 (Дунін-Марцінкевіч+Вераніцын).02
ББК 84(4Бел)



ISBN 978-985-6718-90-1

*За дапамогу пры падрыхтоўцы
ўкладальнік выказвае шчырую ўдзячнасць*

*віцэ-прэзідэнту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў
спадарыні Моніцы* ***Цюліг-Банькоўскі***
*(Monika Bankowski-Züllig; Швейцарыя);*

*Лявону* ***Гаравому*** *(Гарадок), Нілу* ***Гілевічу****, Уладзіміру* ***Гілепу****,
Яніне* ***Дашкевіч****, Генадзю* ***Кісялёву****, Аляксандру* ***Лукашанцу****,
Арнольду* ***Макміліну*** *(Лондан), Алесю* ***Наварычу****,
Уладзіміру* ***Някляеву****, Міколу* ***Пінігіну****,
Зміцеру* ***Санько****, Алене* ***Таболіч****, Яну* ***Чыквіну*** *(Беласток)*

*перакладчыкам Уладзіміру* ***Папковічу*** *(Віцебск), Веры* ***Рыч*** *(Лондан),
Чэславу* ***Сэнюху*** *(Варшава), Дамініку* ***Янушкевічу*** *(Ракаў)*

*Польскаму інстытуту ў Менску (дырэктар Пётра* ***Казакевіч****)*

*старшыні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь
па справах ЮНЕСКО Уладзіміру* ***Шчаснаму***

*Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Рэспублікі Балгарыя
ў Рэспубліцы Беларусь прафесару Петку* ***Ганчаву***

*Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Украіны
ў Рэспубліцы Беларусь Ігару* ***Ліхавому***

*дырэктару навукова-вытворчага кааператыва «Вэктар»
спадару Пятру* ***Герасімовічу*** *(Мінск)*

# ЗМЕСТ



## В. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ



## КАСТУСЬ ВЕРАНІЦЫН

*In MEMORIAM*
*Barbara Krzyżańska-Czarnowieska*

*Памяці Вінцэнтавай*
*прапраўнучкі —*
*паэткі і перакладчыцы*
*Барбары Крыжаньскай-Чарнавескай*
*(15.04.1954–22.11.2007)*

## Паводле Дэкрэту ад 2988 года,
## альбо
## З каго смяемся?

Класічнасць – як боскасць: непадуладна часу.

Класіка адказвае на вечныя пытанні: «як жыць?» Аднак чалавечая памяць, асабліва ў народаў паняволеных, кароткая. І таму класіка — вечная. Кожнае пакаленне наноў звяртаецца да айчынных творцаў з адвечным: «як жыць?»

Камедыя «Пінская шляхта» паўстала, як лічаць літаратуразнаўцы, з-пад пяра Дуніна-Марцінкевіча ў скрутна-шчаслівым 1866 годзе. Напачатку ці напрыканцы яго — невядома. Ведама толькі, што перад тым камедыёграф свой 57 год нараджэння[1] адзначыў у турме: ад кастрычніка 1864 па Каляды 1865 парыў мулкія нары ў Пішчалаўскім замку[2]. Дык верагодней за ўсё там, дзе ўлетку 1911-га ў Якуба Коласа вырвалася выпакутаванае *«Мой родны кут, як ты мне мілы...»*, у той самай царскай катоўні на паўстагоддзя раней пачынальнікам новай беларускай літаратуры выношвалася бліскучая сатырычная «Пінская шляхта».

Сумнеўна, праўда, каб пісьменнік меў магчымасць штодня трымаць сціло і жыць на творчым уздыме. Бо Вінцэнт дзень і ноч чакаў — чым скончыцца зняволенне: кантрыбуцыйным налікам? высылкай у «сібір»? ці чымсь жахлівейшым? Як адкупіцца ад таго? Як збавіцца? Не пацерамі належала вымольваць збаўленне... Бо вырашалі твой лёс не нябёсы, а чужынцы ў вайсковых пагонах выносілі выракі над ваколічнай шляхтай, якая «бачыла бойку, але не бараніла» расейскае самадзяржаўе ад «полячишек», і якая «не бачыла бойкі, за тое што не бачыла...»

Удзелу Марцінкевіча ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні літвінаў-беларусаў супраць акупацыйнага рэжыму следчыя не давялі. Але як пакінуць беспакарана таленавітага чалавека, якому прыпісваюцца бадай усе антыўрадавыя вершаваныя адозвы на тутэйшай «простай гаворцы»?![3] І

«гутаркі» тыя не простыя, «бяскрыўдныя графіці», як здаецца на першы погляд, а больш пагрозныя, чым пякучыя лісткі «Мужыцкай праўды». Бо... лоўка рыфмаваныя! Значыць, лягчэй застаюцца ў памяці неадукаванага насельніцтва.

Так, гісторыкі падлічаць: за стагоддзе інкарпарацыі Літвы-Беларусі ў складзе расейскай імперыі непісьменнасць (да 1897 г.) на «забраных землях» узляцела з 40 да 77 адсоткаў! (*«Акультурыліся людзі!»* — рэзюмаваў пра тое Уладзімер Караткевіч, «дасціпны і праўдзівы» нават у падсавецкія часы). А дзе пануе непісьменнасць – там valадарыць цемра, невуцтва, затурканасць і забітасць. Тады ад страху можна й не ведаць, пад якім царом жывеш, якім «дэкрэтам» кіруешся...

Непісьменнасць сінонім «несвядомасці».

Класіка ствараецца найчасцей у адчайным баруканні прыгожага з брыдотаю, узвышанага і нізкага, акрыленасці з зацуглянасцю. І чым мацней (да безнадзейнага!) перашкоды, тым велічнейшым атрымліваецца ўзлёт духу. Можа, у тых цагляных лёхах і дачуўся 56-гадовы астрожнік пра тое, чаго не ведае пакуль аніводзін айчынны даследчык-архівіст і гісторык-літаратуразнаўца... Што нават крывавы Мураўёў-Вешальнік пайшоў... на хабар! Праўдзіва, колькі можна вешаць-расстрэльваць задарма? Таму і хапануў расейскі генерал-губернатар, «людажэр» (*«gdy szalał w Wilnie tygrys-człowiek Murawjew»*), 15 тысячаў срэбранікаў за «дараванне жыцця» двум тубыльцам — тутэйшым шляхціцам Аскерку і Яленскаму [4].

Можа і Вінцэнт выблытаўся з Пішчалаўскага замка («Валадаркі» пасучаснаму) гэткім макарам? *«Куку в руку»* прыблудных расейскіх чыноўнікаў, *«набранных из отбросов по всей империи»* [5], насыланых і насыланых на «навадалучаныя абшары», было проста ў іхняй ярэмнай крыві, перад тым стагоддзямі звыклых адкупліваца ясакамі ад татарскіх ханаў. Нездарма на старонках «Мужыцкай праўды» Кастусь Каліноўскі выказаўся пра тагачаснае чынавенства: «А чыноўнікі то маскоўскія — яшчэ адно дабрадзейства. Чытаў я ў ксёнжках, што ёсць на свеце якась саранча, катора як гдзе пакажацца, усю худобу гаспадарску зглуміць. Маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы, а гэта чыноўнікі маскоўскія з сваёю «праўдаю» і «справядлівасцею», яны людзі вельмі здатныя, што то па-маскоўску *«праворныя»*, умеюць так аблізаць чалавека, што з рук іх выйдзеш голенькі як маці радзіла — і жыві пад гэтакім рондам без суду і праўды....»

Згодна прысуду палявога аўдытарыята ў асобе памочніка Вешальніка, генерал-лейтэнанта Манюкіна, В.Марцінкевіча не саслалі. І нават хвальварак не канфіскавалі (хіба разумеючы: дзе ж тады пісьменніку пісаць?). Толькі, нібы той Кручкоў, абдзёрлі, прыпячатаўшы: «пакараць грашовым штрафам, спагнаўшы з ягонага маёнтку, не толькі за яго самога, але і за жонку ягоную, што *ўдзельнічала ў дэманстрацыях*», «узмоцнены збор».

«Чалавек без пакут — трава» (В.Быкаў). Адпакутаваўшы больш за год у турэмнай катоўні, пісьменнік выйшаў з казематаў загартаваным. Пусціўшы з каменных сутарэнняў, царызм не выпусціў дарэшты пісьменніка з сваіх учэпістых лапаў і пільнай «апекі»: вайскова-палявы вырак пастанавіў шматгадовы (таемны) паліцэйскі назірк над ім у Люцінцы.

Мілая сядзіба ператварылася ў жандарскі астрог.

Ды ведама: дома і родныя сцены натхняюць! Не прадбачылі маскальскія сатрапы, што такому няўрымсліваму творцу як Марцінкевіч «аселасць» толькі ў руку! Што яна паспрыяе заканчэнню неўміручай «*Пінскай шляхты*» — найпершаму яркаму антыкаланіяльнаму твору ў беларускай камедыяграфіі.

«Каранцін» (горка такое й дапускаць!) пайшоў на карысць. Штосьці падобнае намагаліся засведчыць «вернападданыя» сябры Пушкіна ў лёсе расійскага генія: «Я полагаю, что император Александр I, заставляя его жить долго в Михайловском, много содействовал к развитию его гения. Там, в тиши уединения, созрела его поэзия, сосредоточились мысли, душа окрепла и осмыслилась...»[6]. А літаратурны наступнік Дуніна-Марцінкевіча, паэт Максім Танк, у сваіх дзённіках рэфлексаваў: «Можа, і слушна калісьці іспанскі кароль на пытанне французскага караля, як жыве Сервантэс, адказаў: «Бяда і нястача спрыяюць развіццю таленту». У нас гавораць: «Галодны певень раней спявае». Але ж нам вядома, «колькі талентаў звялося» ў цяжкіх умовах нястачы і няволі»[7].

Апроч праблем непісьменнасці, дзікай забітасці, запалоханасці з рэліктамі ганарыстасці і пыхі (ясная рэч, не толькі ў пінскай ваколічнай шляхты) — карацей, з усім тым, што можна аб'яднаць паняткам «выміранне», «дэградацыя» тутэйшага нобільства, апроч зацяганай тэмы выкрыцця хабарніцтва прышлых чынадралаў[8], камедыёграф у «*Пінскай шляхце*» закрануў яшчэ і з'яву новую: правакатарства расейскага чынавенства. Бо нікчэмнасць і подласць «лапсэсара» Кручкова не толькі ў тым, што бессаромна дзярэ («*спакуйтэ там хорошэнко до воза*») пінчуцкія лапаны-падноскі тандэмам з памагатым Пісулькіным («*покинь ваше залецанки, и бэрыса за дило; тут, брат, нам прыгоже жныво*»), але ў фінальнай сцэне пад'юджвае палескіх тубыльцаў на новую бойку. Як было справакавана заўчасным рэкруцкім наборам («бранкаю») само Студзеньскае паўстанне ў Варшаве ў неспрыяльную студзёную пару пачатку 1863 года. Моваю ахоўнікаў-цэрбераў з сумнавядомага III Аддзялення, гэта звалася «ўскрыць гнілую варшаўскую рану», каб не «памёр» увесь польскі арганізм. «Памёр» — у сэнсе адарваўся ад «*адзінай* Расеі». Вялікай й непадзельнай. А новая бойка (без розніцы: над варшаўскай Віслай, пад Мілавідамі, на Палессі ці дзесь у гарах з Шамілем) — гэта не толькі сабе, але й дзецям сваім нязводнае «жніво».

Арыштанцкі досвед праўдзіва неацэнны: адзін год ідзе за дзесяцігоддзе. Або нават за паўжыцця. Не кажучы, колькі новых сюжэтаў, калізій можна пабачыць, пачуць і самому стаць сведкам чалавечай годнасці і мярзотнасці. Усё гэта настолькі ярка, зіхатліва, таленавіта й дасціпна, па-наватарску смела, карнавальна да неверагоднага змясцілася менш чым на 20 старонках *«Пінскай шляхты»*, што больш чым праз стагоддзе ад напісання ў Дуніна-Марцінкевіча паспрабавалі адабраць аўтарства камедыі[9].

Хоць «навуковая» публікацыя з'явілася сем гадоў таму, аднак між айчыннымі літаратуразнаўцамі спрэчак па дадзенай праблеме фактычна не адбылося з відавочнага: нататка ў аўстрыйскім прэстыжным славістычным выданні не падмацавана аніякімі аргументамі, якія б аспрэчвалі прыналежнасць камедыі класіку. У ім назіраецца непрыхаваная спроба пайсці зорным шляхам «кротуса Генуса» — легендарнага даследнікаархівіста Генадзя Кісялёва, на галоўным рахунку якога не толькі ўзнятая на дакументальны грунт айчынная Каліноўскіяна (і наагул змагарны ўздым 1863-1864 гадоў), але і здаўна чаканы адказ на пытанні: хто напісаў ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»[10].

Больш за тое, у публікацыі зроблены фактычныя памылкі і недакладнасці. Найгалоўная выснова, да якой прыйшоў аўтар: *«Виртуозное пародирование судебного разбирательства позволяет думать, что ПШ написана юристом»* — не пярэчыць жыццёваму досведу драматурга. Як выяўлена ўкладальнікам, толькі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваецца каля дзесятка судовых спраў з удзелам В.Дуніна-Марцінкевіча, з большыні якіх *«калежскі сакратар, шляхціч Менскай губерні»* праўдзіва *«виртуозно»* выблытаўся. Яшчэ што схіляе пакідаць *«Пінскую шляхту»* за Марцінкевічам — гэта тое, што якраз у ягонай карэспандэнцыі ўпершыню геніяльны твор згаданы поруч з пералікам іншых аўтарскіх кніг.

Зрэшты, нічога благога калі ў будучыні апроч гучнага прозвішча Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, «якога і лічаць *сапраўдным* першым беларускім пісьменнікам, першым літаратурным імем на безлітаратурнай Беларусі» (Сяргей Палуян), зазіхаціць яшчэ адно імя таленавітага сучасніка Беларускага Дудара. Як тое здарылася з невядомым у XIX стагоддзі Кастусём Вераніцыным і ягоным «Тарасам». Да слова, прапанаваны тут аўтэнтык камедыі і захаваўся ў фондзе славіста Яна Карловіча (1836—1903) побач з іншымі беларускімі матэрыяламі, сярод іх і знакамітая паэма «Тарас на Парнасе»[11]. Якую ж, зноў да слова, працяглы час прыпісвалі пяру Беларускага Дудара.

Дык няхай і ў гэтым выданні, прысвечаным высокаму 200-годдзю В. Дуніна-Марцінкевіча яны суседзяць, выразна сведчаць пра нашае *класічнае XIX стагоддзе*.

Упершыню аўтэнтык «*Пінскай шляхты*» пабачыў свет у «Творах» В.Дуніна-Марцінкевіча (1984), дзе быў змешчаны як «Дадатак», бо на момант правядзення графалагічнага доследу Навукова-даследчым інстытутам судовых экспертыз адносна прыналежнасці рукапіса пяру камедыёграфа аднатомнік цалкам быў падрыхтаваны да друку. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» пад кіраўніцтвам тагачаснага асветнага дырэктара Міхала Дубянецкага (1927—1990) пастанавіла апублікаваць «аўтэнтык», тым самым увёўшы гэты рукапіс у навуковы абыход яшчэ ў сярэдзіне 1980-х гадоў.

Розначытанне аўтэнтыка (*Грыцько—Грицько, Марыся— Марися, Кручков—Крючков* і інш.) вытрымана з прычыны мажлівага творчага прыёму: «Разам з сюжэтнай фабулай драматург бліскуча разыграў і мову сваіх герояў, дзе спалучыліся рысы палескіх гаворак, беларускай і ўкраінскай моў»[12].

Класічнасць як прароцкасць: будучая моўная кантамінацыя (засмечванне) з вуснаў прышлых кручковых XXI стагоддзя (без розніцы: пінскіх ці магілёўскіх) геніяльна прадбачылася пачынальнікам новай беларускай літаратуры яшчэ ў пазамінулым веку. Уніфікаваць жа непаслядоўнасць у цудам ацалелым арыгінале «*Пінскай шляхты*» Дуніна-Марцінкевіча — як паправіць указ «*Петра Великого, в 1988 году марта 69 дня последовавшаго*» на *1688* год. Што і зрабіў быў у 1984 г. выдавецкі рэдактар, лічачы сябе мудрэйшым за вялікага папярэдніка — класіка айчыннай літаратуры Вінцэнта, сына Яна, Дуніна-Марцінкевіча.

Пераклад выдатнай камедыі на англійскую, нямецкую і польскую мову здзейснілі адпаведна Вера Рыч і Дамінік Янушкевіч (*Vera Rich* не толькі пераклала вершаваныя спеўкі, але адрэдагавала ўвесь ангельскі тэкст); Моніка Цюліг-Банькоўскі (*Monika Bankowski-Züllig*; паходзіць з нямецкамоўнай часткі Швейцарыі), а таксама праправнучка В.Дуніна-Марцінкевіча — Барбара Крыжаньская-Чарнавеская (*Barbara Krzyżańska-Czarnowieska*; нарадзілася ў Кракаве). Апроч таго, рэдакцыю польскага тэкста выканаў варшаўскі перакладчык Ч.Сэнюх (*Czesław Seniuch*).

Практычна скончыўшы ў Анціёху ля Чыкага (штат Ілінойс у Злучаных Штатах Амерыкі), 18 лістапада 2004 г. польскі пераклад гарэзнай камедыі свайго ганаровага продка, праправраўнучка Дуніна-Марцінкевіча, не могучы выйсці з-пад прадзедавых чараў, перасылаючы тэкст мне ў Ракаў, прыпісала пастскрыптум: «*Паводле загаду № 457, параграфа 12, з дня 91 месяца красавіка, году 2000 ад нараджэння Хрыста — Найяснейшаму Прыяцелю майму, Язэпу Янушкевічу, якому давядзецца заплаціць 100 рублёў на кошт Музэя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, і ўласных коштаў (на паперу тут скарыстаную) капеек 13*».

Таму шкада, што 30.05.2007 г. на паседжанні Арганізацыйнага камітэта, створанага на ўрадавым узроўні для падрыхтоўкі святкавання юбілею Беларускага Дудара (першым і, здаецца, адзіным паседжанні) хоць і прагучала, падтрыманая старшынёю Аргкамітэта, віцэ-прэм'ерам беларускага ўраду Аляксандрам Косінцам прапанова пра будаўніцтва хаці-ны-музея Люцінцы, пра які Барбара гэтак марыла, аднак да 200-годдзя з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча мы яго не прычакалі: шматабяцальнае рашэнне затрымалася нібыта праз адсутнасць сродкаў.

Але ці толькі пра недахоп бюджэту-казны, ці толькі пра грошы-мільёны тут ходзіць?

Прыязджала ж ахвярна ў красавіку 2005 г. Барбара на Бацькаўшчыну (прарочa прызнаючыся мне ў свае 50 гадоў, што яна тут апошні раз) і вяла перамовы ў *«Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі»*, каб распачаць збор ахвяраванняў на Музей ў Люцінцы. Не атрымалася. Бо, кажучы моваю Кручкова, «Паводле дэкрэту Гора Шклоўскага ад 2088 года», прыватныя асобы, хай сабе й сваякі, не маюць права займацца мемарыялізацыяй спадчыны творцаў, а толькі «дзяржаўныя структуры».

Зрэшты... Захоўвае ж колішні настаўнік Івянецкай школы, а цяпер дырэктар Івянецкага музея традыцыйнай культуры сп. А.Раманоўскі квіток ад 18.08.1988 года на перавод Беларускаму Фонду Культуры *20 рублёў*, зробленых і ахвяраваных школьнікамі на пабудову будачага музея ў вёсцы Малая Люцінка Валожынскага раёна. Жарты сказаць – два дзесяцігоддзі зляцела, а мемарыяльнай сядзібы ў Люцінцы няма...

Дык з каго мы пацяшаемся ў смяхотнай «Пінскай шляхце»?

*P.S.* Ці хто з даследчыкаў, гартаючы-чытаючы-аналізуючы больш стагоддзя «Пінскую шляхту», угледзеў, як ведае альфабэт хабарысты правакатар Кручкоў? А, б, в, д, г...

Зрэшты, «Найяснейшая Карона» дазваляе сабе й не такое ў трактаванні ўказаў [13].

Што ж, класіка, яна нават у адной «непаслядоўнай» літары — КЛАСІКА!

*Кракаў - Ракаў - Беласток,*
*верасень - снежань 2007*

*Генадзю Кісялёву*

## Твор, які не павінен быў нарадзіцца

Даследнік-архівіст Генадзь Кісялёў, на рахунку якога капа́ грунтоўных, а часам і сенсацыйных адкрыццяў з гісторыі айчыннай літаратуры XIX стагоддзя (сенсацыя спараджаецца ў чалавечым уяўленні тады, калі паспаліты люд памылкова і самазадаволена мяркуе, быццам пра нешта ведае ўсё і дасканала), у адным з даследаванняў 1970-х гадоў прыгадаў выказванне пісьменніка Івана Чыгрынава: «З дзяцінства я быў упэўнены, што немагчымы дзве рэчы: каб людзі дабраліся да Месяца і каб быў адкрыты аўтар «Тараса»...» [14]

Выказванне, бясспрэчна, занатавана пасля 21 ліпеня 1969 года, калі Ніл Армстронг, першы сярод зямлянаў, ступіў на нежыццёвую паверхню. У такім, касмічнай вышыні, параўнанні нашай найвыдатнай паэмы XIX стагоддзя з загадкавай, хоць і найбліжэйшай да Зямлі спадарожніцай, зафіксавана не столькі нявера ў людзкую здольнасць пранікнуць у сівыя таямніцы гісторыі або ступіць на далёкую планету, колькі рацыяналізм чалавечага мышлення. Апошняе пабудавана паводле выпрацаваных за стагоддзі-тысячагоддзі стэрэатыпаў, якія ўспрымаюцца аксіёмна: ёсць спаконвечныя, а значыць, нязменныя законы зямной прыроды (зіма-вясна-лета-восень), ёсць геаграфічныя (усход-захад-поўнач-поўдзень), складзены матэматычныя (2+2=4; 3х3=9), удасканальваюцца фізічныя (тры законы Ісака Ньютана, тэорыя адноснасці Энштэйна, будова атама-ядра).

Але пакінем прыродазначыя пастулаты, паколькі размова пойдзе пра выпрацаваныя сусветным прыгожым пісьменствам законы паэтыка-літаратурныя: рытміка, рыфма, стыль, вобразнасць і г.д.

Згодна апошнім тое, што пабачыла свет 16 траўня 1889 г. у газэце «*Минский листок*» (№ 37), не павінна было быць! Паколькі ў царскай Расеі афіцыйна беларускай літаратуры, а тым больш паэзіі — не існавала. Ужо не існавала. Бо тая мова, на якую ў Златай Празе слынны Францішак Скарына пачаў у жніўні 1517 года друкаваць кнігі «*БІБЛІІ*», на якой напісана першая ва Ўсходняй Эўропе юрыдычная Канстытуцыя — Статуты Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, ужо даўно была надзейна замуравана рознымі манаршымі дэкрэтамі і нават адмысловым рэскрыптам Мікалая I пра забарону самой назвы «Беларусь» (1840).

Аднак «падвалы» другой і трэцяй старонак заштатнай акупацыйнай газэткі [15] сведчылі пра з'яўленне пярліны мастацкай творчасці ў беларускай паэзіі. Зграбны, паэтычны рыфмаваны тэкст (адразу тры сотні

радкоў!) на цудоўнай «гаворцы» сходу ставіў яе ў шэраг развітых літаратур. Якіх? Хоць бы суседніх. Польскай (з нашым Адамам Міцкевічам на чале), расейскай (Аляксандар Пушкін), украінскай (з несмяротным Кабзаром-Шаўчэнкам). І нават з нямецкай (разам з аўтарам «Фаўста») ды ангельскай (з лордам Джорджам Байранам).

Публікацыя звалася лаканічна: *«Тарас. Беларуская паэма»*. Сюжэт яе быў дзівосным: мужык-палесаўнік, якога клікалі Тарасам, трапіў знячэўку на гару Парнас. Апошняя назва ну анічога не прамаўляла да стэрэатыпнага мышлення тутэйшага селяніна, больш звыклага да найменняў «Лысай гары» з начнымі ведзьмамі і д'ябламі. А тут — кніжны Парнас. А замест нячысцікаў — *«Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі і Гогаль»*[16].

Ну, гэтыя імёны, у заграбленай Беларусі, якая паспяхова русіфікавалася і плён русіфікацыі ўжо напрыканцы XIX стагоддзя відавочніўся, гучалі наслыху. А сам твор гучаў гэтак лёгка, зіхотка, што ў наступным, 1890 годзе, яе перадрукаваў далёкі *«Смоленскій вестнік»*[17]. Праўда, без аніводнага слова-рэмаркі. У менскай жа першапублікацыі замест грунтоўнага ўступу ёй спадарожнічалі ўсяго два кароткія сказы. *«Эта поэма принадлежит перу неизвестного белорусского поэта-юмориста. Говор Витебской губернии»*.

З паэтаў на Беларусі найбольш вядомым быў толькі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808-1884), паколькі палымяныя зборнікі «Дудка беларуская» (1891), «Смык беларускі» (1894) Францішка Багушэвіча (1840—1900), *alias* Мацея Бурачка, vel Сымона Рэўкі з-пад Барысава яшчэ чакалі друкарскага варштату ў далёкіх кракавах-познанях. Таму анічога дзіўнага, што праз пяць гадоў у «Віцебскіх губеранскіх ведамасцях» нарыс маладога гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867—1934) гэтак і называўся: *«В.Дунін-Марцінкевіч і яго паэма «Тарас на Парнасе»*. Аднак пакуль ён цэлы год друкаваўся (студзень 1895 — студзень 1896), напісаўся яшчэ адзін артыкул, апублікаваны (ананімна) у тых самых «Віцебскіх губеранскіх ведамасцях» адразу пасля заканчэння нарыса М.Доўнар-Запольскага. У ім катэгарычна адмаўлялася аўтарства В.Дуніна-Марцінкевіча. На думку ананіма, жыццёвы шлях *Беларускага Дудара* і *Навума* (псеўданімы В.Марцінкевіча) звязаны з Магілёўшчынай і Міншчынай, у той час калі мова «Тараса» — паўночныя гаворкі Віцебшчыны. Рабіліся закіды, што ўсе ранейшыя публікацыі (менская, смаленская і Доўнар-Запольскага) няякасныя, «далёкія ад арыгінала».

Вынік гэтай публікацыі быў важкім: *«Ввиду неразыскания подлинного текста «Тараса» и существующего в обществе интереса к этому юмористическому произведению, мы предлагаем вниманию читателей составленный нами сводный его список, сверенный со многими имевшимися в нашем распоряжении списками, обращающимися в Витебской и Могилевской губернии»*[18].

Зводная рэдакцыя паэмы [19], тэкст якой да нядаўняга часу налічваў толькі 314 радкоў, разбітых на 15 раздзелаў па 4-6 строф у кожным, амаль стагоддзе лічыўся хрэстаматыйным. Пакуль нядаўна, дзякуючы найперш намаганням Генадзя Кісялёва, не быў адшуканы найбольш верагодны аўтар знакамітай паэмы. Больш за тое, адзін са спісаў «ананімнага народнага твора» мае дакладную пазнаку: *«Гарадок, 15 красавіка 1855 г.»*. На думку Г.Кісялёва, аўтарам *«Тараса на Парнасе»* належыць лічыць Кастуся Вераніцына (Васільева; 1834—1904), які нарадзіўся на Гарадоччыне (самы паўночны закутак Віцебшчыны), пэўны час вучыўся і жыў у Пецярбургу, выдатна ведаў закулiснае жыццё тагачасных расійскіх літаратараў.

Апошняя «зводная рэдакцыя» для гэтага шматмоўнага фаліянта выканана ўкладальнікам з улікам прапаноў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча і гісторыка-літаратуразнаўца Генадзя Кісялёва. Улічаны таксама найноўшыя знаходкі спісаў, невядомых літаратуразнаўцам XIX — першай паловы XX стагоддзяў. Цяпер тэкст «Тараса» налічвае 322 радкі[20].

Таму твор, напісаны 4-стопным ямбам пушкінскай школы, гэтак цудоўна ўпісаўся ў беларускую паэтычную стыхію і стаў візітнай карткай нашай адроджанай паэзіі. Адроджанай на новай беларускай літаратурай мове. Якой жыць стагоддзі. Паэзіі, якая паводле ўсіх чужацкіх пазамінуластагодніх паэтычных канонаў павінна была сканаць, не нарадзіўшыся.

І якім зіхоткім ды таямнічым выдалася яе нараджэнне, гэткім жа патаемным здараецца, часам, яе існаванне ў XX стагоддзі. Маю на ўвазе паэтычных «ананімных сястрыц» *«Тараса на Парнасе»* — паэм «Сказ пра Лысую гару» (пачатак 1970-х гг.) ды «Л. М…аў — прэзідэнт» (сярэдзіна 1990-х).

Пераклад паэмы на паўдзесятка замежных моў павінен засведчыць плённую традыцыю выдання шматмоўных беларускіх твораў пад адной вокладкай. На жаль, з розных прычынаў тут не пададзены ўсе магчымыя перастварэнні. Толькі на ўкраінскай мове існуе ажно тры пераклады гэтай паэмы (А.Танюка, А.Шаўчэнкі, В.Стралко), па два на англійскай (У.Мэя і В.Рыч), польскай (С.Кашыньскага і Ч.Сэнюха) і расейскай (М.Ісакоўскага і М.Лазінскага) мовах. Мяркую, такое цікавае шматмоўнае паралельнае выданне — справа бліжэйшай будучыні.

Пераклады на балгарскую (Найдэна Вылчава), гішпанскую (Карласа Шэрмана) і нямецкую (Уладзіміра Папковіча) выкананы адмыслова для гэтага праекта, рэалізацыя якога расцягнулася амаль на паўдзесяцігоддзе (павінна было выйсці ў 2005 г. – да 150-годдзя «Тараса на Парнасе»).

*2005-2007*

***Язэп Янушкевіч***

[1] Нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч 23 студзеня / 4 лютага 1808 г.

[2] Слынная пры ўсіх уладах менская турма (на вуліцы Валадарскага) мецьме зорную будучыню: апошнім часам плануецца перарабіць яе пад гатэль для экстрэмальных турыстаў.

[3] Што там палітычныя адозвы! Што там сполах у жандарскіх вачох з-пад брылькоў-казыркоў. Пазней нават разважныя навукоўцы-гісторыкі прыпісвалі В.Дуніну-Марцінкевічу аўтарства фацэтнай паэмы «Тарас на Парнасе». (Довнар-Запольский М. Дунин-Марцинкевич и его поэма «Тарас на Парнасе»: Очерк из истории бел. этнографии. Витебск. 1896.). Дзякаваць маім калегам, найперш унікліваму Г.Кісялёву, такое не прынялося.

[4] Пра гэта сцвердзіла ў сваіх ненадрукаваных мемуарах Апалонія Далеўская (1841—пасля 1915), удава Зыгмунта Серакоўскага (1827—15.06.1863, Вільня), які камандаваў паўстанцкімі ўзброенымі сіламі Літвы (пад вайсковай мянушкай Далуга); параненым узяты ў палон, павешаны ў Вільні. Падчас пакарання крыывавы Мураўёў змушаў Апалонію, на той час ужо цяжарную, назіраць за экзэкуцыяй мужа. Над такім жыццёвым сюжэтам змагарнага мінулага нашай няскорнай Бацькаўшчыны, Рамэа і Джуельта, як слэнгуе сучасная моладзь, проста «адпачываюць».

[5] Паводле ўспамінаў землявольца Л.Панцялеева, зняволенага (крыху пазней) у тых самых «Дамініканах» што і Кастусь Каліноўскі.

[6] Керн А.П. Воспоминания о Пушкине // Друзья Пушкина: Переписка. Воспоминания. Дневники. В двух томах. Том 2. М.: «Правда», 1985. С. 235.

[7] Гэтая ж думка аформлена Максімам Танкам і па-іншаму: «Адказ іспанскага караля каралю французскаму, які цікавіўся лёсам Сервантэса: «Калі неабходнасць змушае яго да пісання, дык дальбог, хай ніколі не знае дастатку, каб праз свае творы, сам бедны, узбагаціў цэлы свет" (абодва запісы каля 09.VII.1986 г.).

[8] З'ява не новая, бо яшчэ напачатку XIX стагоддзя міністар юстыцыі царскай Расеі Д.Трашчынскі выказаўся пра свой дэпартамент, безнадзейна аплецены хабарніцтвам: «*Сие море великое и пространное, в нем же гадов несть числа*».

[9] Мечковская Н. Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля *Пинская шляхта* // Wiener Slawistischer Almanach. 2000. Band 46. С. 225—238.

[10] Гл. шматлікія захапляючыя даследаванні Г.Кісялёва «Загадка беларускай «Энеіды» (1971); «Пошукі імя» (1978); «Разыскивается классик...» (1989); «Жылі-былі класікі...» (2005). Падрабязней ва ўступе «Твор, які не павінен быў нарадзіцца» да другой часткі гэтага шматмоўнага фаліянта.

[11] Дзяржаўны гістарычны архіў Летувы ў Вільні (ДГАЛ). Ф. 1135. Воп. 10. Адз. зах. 219.

[12] Янушкевіч Я. Арыгінал «Пінскай шляхты»//Літ. і мастацтва. 1982. 30 ліп.

[13] І напачатку XXI стагоддзя можна канстатаваць нявывучанасць альфабэта айчыннай гісторыі, мяркуючы з «дыскусіі»: «ці мог Францішак Скарына вучыцца ў Пецярбургу?».

[14] Кісялёў Генадзь. Жылі-былі класікі: Хто напісаў паэмы *«Энеіда навыварат»* і *«Тарас на Парнасе»*. Мінск, 2005. С. 479.

[15] Ад часоў падзелаў на землях Літвы-Беларусі праз усё XIX стагодзе не выдавалася аніводнай афіцыйнай газеты на мове тубыльцаў. Таму гэтак й баяліся акупанты пякучых ліісткоў «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага, быццам усведамляючы, што за Беларускім Словам абавязкова адродзіцца Беларускі Народ.

[16] Відаць, нездарма ў драматургічнай сцэнцы «Міласцівы Восіп» (канец XIX ст.), збудаванай па прынцыпу тэатар у тэатры, адзін з уяўных слухачоў, праслухаўшы «Тараса на Парнасе», рэзюмаваў: *«Тикавая байка; только не для простого народа!..»*.

[17] Нагадаем, што Смаленшчына — даўнія этнаграфічныя землі Беларусі, усходні фарпост ВКЛ, здадзены беззваротна пад уладу маскоўскіх цароў у 1686 годзе ў выніку г.зв. «Вечнага міру» паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. Таму нездарма са Смаленшчынай злучаны яшчэ адзін помнік беларускай паэзіі XIX стагоддзя — паэма «Энеіда навыварат» Вінцэнта Равінскага; колькі дзесяцігодзяў таму твор таксама лічыўся ананімным.

[18] Кісялёў Генадзь. Жылі-былі класікі... С. 281.

[19] Як цяпер вядома, яе выканаў беларускі этнограф і фальклярыст Еўдакім Раманаў (1855—1922).

[20] Зайздроснае ўменне папярэднікаў-класікаў пісаць сцісла-трапна. Нагадаю, што сучасніца «Тараса» камедыя «Пінская шляхта» не перавышае тэкставога аркуша (менш за 32000 знакаў). Цікава таксама прыгадаць, што ў слынны «Кабзар» (1840 г. адзінае прыжыццёвае выданне «маларасійскага» генія) украінскі 26-гадовы паэт уключыў... усяго 8 вершаў!

*Pamięci praprawnuczki Wincentego*
*poetki i tłumaczki*
*Barbary Krzyżańskiej-Czarnowieskiej*
*(15.IV.1954 — 22.XI.2007)*

**Pierwszy antykolonialny utwór białoruskiego komediopisarstwa,**
albo
**z kogo się śmiejemy?**

Klasyka — jak boskość; nie podlega czasowi.

Klasyka odpowiada na odwieczne pytania: «jak żyć». A jednak ludzka pamięć, zwłaszcza u narodów zniewolonych, jest krótka. I dlatego klasyka — wieczna. Każde pokolenie na nowo zwraca się do ojczystych twórców z odwiecznym pytaniem — «jak żyć?»

Miejsce Wincentego Dunin-Marcinkiewicza (1808—1884) jako klasyka ojczystego piśmiennictwa w historii naszego narodu jest na trwałe wyznaczone: prekursor nowej literatury białoruskiej.

Jednak wielkość dokonań śmiałego Nauma Pryhaworka (pseudonim twórcy) można pojąć tylko skrupulatnie składając w jedno, jakby kłos do kłosa, wszystko to kim był: pierwszym, wysokiej klasy literatem białoruskim XIX stulecia, utalentowanym aktorem, znakomitym dramaturgiem, impro-wizującym poetą, pracowitym tłumaczem, aktywnym działaczem społecznym, wyrazistym publicystą, «jezuickim» konspiratorem, ojcem patriotycznej rodziny, żarliwym Krzewicielem Oświaty ludowej.

Swoje starania kierował Wincenty nie tyle w nurt własnej twórczości ile przygotowując grunt tym, którzy przyjdą służyć białoruskiej literaturze pięknej w przyszłości.

Pierwsza jego książka — to komedia «Sielanka» (Wilno, 1846). Następnymi były: zbiorki poetyckie «Hapon» (Mińsk, 1855), «Dudarz Białoruski» (Mińsk, 1857), poemat «Lucynka, czyli Szwedzi na Litwie» (Wilno, 1861) i inne. W jego twórczym dorobku jest i białoruski przekład poematu Adama Mickiewicza «Pan Tadeusz» — pierwsze z tłumaczeń tej epopei na języki słowiańskie, które nieszczęśliwym trafem ujrzało światło dzienne w Wilnie w 1859 roku — i od razu było objęte rosyjską cenzurą i spalone.

Komedia «Pińska Szlachta», jak przypuszczają literaturoznawcy, spod pióra Dunin-Marcinkiewicza wyszła w 1866 roku. Na początku czy z końcem — nie wiadomo. Wiadomo tylko, że wcześniej komediopisarz swoje 57 urodziny obchodził w więzieniu — od października 1864 roku do Wigilii roku 1865 gnił na pryczy w zamku Piszczałowskim w Mińsku-Litewskim.

Najprawdopodobniej, w tymże zamku, latem 1911 roku Konstantemu Mickiewiczowi (znanemu pod pseudonimem Jakub Kołas) wyrwało się pełne tęsknoty: «*Kraju rodzinny sercu miły! Zapomnieć ciebie nie mam siły!...*» (początek poematu-epopei «Nowa Ziemia», prawie 11000 wersów), i w tejże samej carskiej katowni, pół wieku wcześniej prekursor nowej białoruskiej literatury obmyślał starannie błyskotliwą, satyryczną «Pińską Szlachtę».

Oczywiście wątpliwym jest, żeby pisarz miał możliwość codziennie trzymać pióro w ręce i by mógł żyć w twórczym natchnieniu. Przecież Wincenty dzień i noc czekał na to — czym zakończy się uwięzienie: obłożeniem kontrybucją? zsyłką «na Sybir» czy czymś straszniejszym? Jak wykupić się od tego? Jak się wybawić? Nie pacierzami należało wymodlić uwolnienie. Bo o twoim losie nie decydowały niebiosa. Cudzoziemcy z wojskowymi pagonami wydawali wyroki na obszarach Litwy-Białorusi na okoliczną szlachtę, która «widziała bójkę ale nie broniła» rosyjskiego samowładztwa przed polaczkami i która «nie widziała bójki, dlatego, że nie widziała...»

Udziału Marcinkiewicza w narodowo-wyzwoleńczym powstaniu litewsko-białoruskim przeciwko reżimowi okupacyjnemu — śledczy nie dowiedli. Ale jakże zostawić bezkarnie utalentowanego człowieka, któremu przypisuje się niemal wszystkie antyrządowe wierszowane odezwy w tutejszej «zwyczajnej, pospolitej mowie»? I gawędy te niby prostoduszne, ale bardzo groźne,bardziej wymowne niż gorące strofy «Mużyckiej Prawdy» — Chłopskiej prawdy K. Kalinowskiego. »). Bo... zręcznie rymowane. To znaczy — że łatwiej zapadną w pamięć niewykształconej ludności.

Historycy obliczyli, że w ciągu stu lat przyłączenia terytorium Litwy-Białorusi do imperium rosyjskiego analfabetyzm (do 1897 roku) na «zagarniętych ziemiach» wzrósł z 40 do 77 procent. A gdzie panuje analfabetyzm — tam rządzi ciemnota, nieuctwo, ignorancja, ogłupienie, niepewność. Wynikajacy z tych powodów strach przekłada sie na całkowity brak wiedzy jaki car rządzi, jakimi prawami i dekretami się kieruje.

Synonimem analfabetyzmu: nieświadomość.

Klasyka najczęściej powstaje w rozpaczliwej walce piękna z nikczemnością, wzniosłego z marnym, uskrzydlonego z ujarzmionym. I czym mocniejsze (nawet beznadziejne) przeszkody tym wspanialszy okazuje się wzlot ducha.

Być może, w kamiennej celi usłyszał 56-letni więzień to, czego do dziś w Białorusi nie wie żaden ojczysty badacz-archiwista i historyk-literaturoznawca. Że krwawy Kat-Murawiew brał łapówki. Do podobnych stwierdzeń doszedł również rosyjski generał-gubernator («*gdy szalał w Wilnie tygrys-człowiek Murawjew*»), że nie warto wieszać i rozstrzeliwać za darmo i za «darowanie życia» w przypadku dwóch obywateli tutejszych szlachciców Oskierki i Jeleńskiego pobrał 15 tys srebrników.

Może i Wincenty wydostał się z Piszczałowskiego zamku takim sposobem? «Dawać w łapę!» obcym, rosyjskim urzędnikom «zebranym z odpadów — z całego imperium», nasyłanym i przysyłanym do «nowoprzyłączonych obszarów» było to po prostu w ich służalczej naturze — już przed wiekami nawykłej do wykupywania się darami u chanów tatarskich.

Nie bez powodu na łamach «Chłopskiej prawdy» — jedynej gazetki w białoruskim języku w pierwszej połowie XIX w. [wyszło 7 numerów], Konstanty Kalinowski wypowiedział się na temat okupacyjnej biurokracji: «A urzędnicy to moskiewskie — jeszcze jedno dobrodziejstwo. Czytałem ja w książkach, że jest w świecie — jakaś szarańcza, która jak gdzieś się pokaże to cały dobytek gospodarski zniszczy. My mamy, bracia, gorszą jeszcze od tej szarańczy- a to urzędnicy moskiewscy ze swoją «prawdą» i «sprawiedliwością»; oni są ludźmi bardzo zdolnymi, po moskiewsku — *«provornymi»* [«zręcznymi»], umieją tak oblizać człowieka, że z rąk ich wyjdziesz golutki tak jak cię matka rodziła — i żyj po takim rządem bez sądu i prawdy...»

«Człowiek bez cierpienia — trawa» (W.Bykow). Pisarz wypuszczony z kamiennych podziemi caratu, wyrokiem sądu polowego objęty został wieloletnim (potajemnym) nadzorem policyjnym w miejscu swego pobytu w Lucynce.

Miła siedziba zmieniła się w posterunek żandarmerii. Lecz wiadomo: w domu i ściany rodzinne pomagają! Nie przewidzieli moskiewscy satrapi, że takiemu nieokiełznanemu twórcy jak Marcinkiewicz stałe osiedlenie się było na rękę! Pobyt ten właściwie przyczynił się do zakończenia prac nad «Pińską Szlachtą». Obecnie utwór ten wiecznie żywy nosi miano «nieśmiertelnego». Stanowi bowiem pierwszy utwór w białoruskim komediopisarstwie o ostrej wymowie antykolonialnej.

Oprócz problemów analfabetyzmu, zastraszenia, pozostałości zarozumialstwa, pychy, wyniosłości, buty — wszystkim tym co objąć można jednym pojęciem «degradacji» miejscowej szlachty, a także poza oklepanym tematem łapownictwa napływowych łowców coraz wyższych stopni urzędniczych — komediopisarz w «Pińskiej Szlachcie» poruszył jeszcze nowe zjawisko — prowokacji rosyjskiej biurokracji.

Więzienne doświadczenie okazało się prawdziwie nieocenionym: jeden rok równy jest dziesięcioleciu. Albo nawet połowie życia. Nie mówiąc o tym — ile nowych tematów, fabuł, konfliktów można zobaczyć, odczuć — a i samemu stać się świadkiem ludzkiej godności i nikczemności.

Zakazane za życia i po śmierci pisarza dzieło (cenzura nie zezwoliła drukować komedii w miejscowym kalendarzu na 1889 rok) — po raz pierwszy zostało opublikowane w 1918 roku w opracowaniu Jazepa Losika, redaktora gazety «Volnaja Biełaruś» («Wolna Białoruś»). Po raz pierwszy oryginał «Pińskiej Szlachty» ujrzał świat w «Utworach» W. Dunin-Marcinkiewicza (1984), gdzie został zamieszczony jako «Uzupełnienie».

Tłumaczenia znakomitej komedii na angielski, niemiecki i polski język (specjalnie dla tego tomu) podjęli się kolejno: Vera Rich i Dominik Januszkiewicz (Vera Rich nie tylko przełożyła na język angielski wierszowane kuplety ale i zredagowała wersję angielską tekstu); Monika Bańkowska-Züllig, pochodząca z niemiecko-języcznej Szwajcarii była tłumaczem wersji niemieckiej, natomiast polską opracowała praprawnuczka W. Dunin-Marcinkiewicza Barbara Krzyżańska-Czarnowieska (Kraków 1954-2007 USA). Redakcji polskiego tekstu dokonał warszawski tłumacz Cz. Seniuch.

Ukończywszy w Antiochi koło Chicago (stan Illinois USA) — 18 listopada 2004 polski przekład swawolnej komedii swojego godnego najwyższych zaszczytów przodka, Barbara, nie mogąc wyjść spod czarów pradziadka, przesyłając mi tekst do Rakowa, dopisała post scriptum: *Według rozkazu N 457, paragraf 12, z dnia 9-go miesiąca kwietnia 2000 Roku Pańskiego — Najjaśniejszego Przyjaciela mego, Jazepa Januszkiewicza, któremu zapłacić przyjdzie 100 rubli na rzecz Muzeum Dunin-Marcinkiewicza, i kosztów własnych — za papier zużyty — kopiejek 13»*.

Dlatego żal, że chociaż 30.05.2007 na pierwszym posiedzeniu (i zdaje się jedynym) Komitetu Organizacyjnego utworzonego dla przygotowania obchodów jubileuszu Białoruskiego Dudarza — na poziomie rządowym — padło zdanie, poparte przez przewodniczącego Komitetu, wicepremiera białoruskiego rządu, Aleksandra Kosinca — o budowie domu-muzeum w Lucynce, o którym tak marzyła Barbara. To jednak w rocznice 200-lecia Wincentego Dunin-Marcinkiewicza zamieżenia nie zostały spełnione. Przykro, że przyjęto wielce obiecujące, mądre postanowienie i znowu zostało zapomniane, odsunięte — z powodu braku środków.

Ale czy tylko o niedostatki kasy budżetowej, o pieniądze chodzi?

Przyjeżdżajac w kwietniu 2005, praprawnuczka Wincenta, Barbara na drogą Jej sercu Ojcowiznę proroczo przewidziała, że jest tu ostatni raz (miała wowczas 51 lat, ale zmagała się dzielnie z ciężką chorobą). Podjęła dlatego rozmowy w «Białoruskim towarzystwie przyjaźni i kulturalnych związków z zagranicznymi krajami»,aby sprawa Muzeum nabrała realnych kształtów poprzez organizacje środków na ten cel. Nie powiodło się. Albo mówiąc językiem «*dekretu Nieszczęścia Szkłowskiego z 2088 roku*» Kruczkowa — prywatne osoby, choćby i krewni, nie mają prawa zajmować się upamiętnianiem spuścizny twórców, a tylko «państwowe struktury».

Zresztą ... Były nauczyciel szkoły, obecnie dyr. Muzeum w Iwieńcu A. Romanowski przechowuje pokwitowanie z 18.08.1988 r. na kwote 20 rubli zarobionych i przekazanych przez uczniów na budowę przyszłego muzeum we wsi Mała Lucynka w Wołożyńskim okręgu. To jest żart — dwa dziesięciolecia zleciały — a Domu-Muzeum brak. Szkoda również szlachetnej inicjatywy młodzieży, która zrażona brakiem reakcji — podobnych działań juz nie podejmie.

Tak i z kogo się śmiejemy w «Pińskiej Szlachcie»?

*P.S.* Kto z badaczy czytając-studiując-analizując od ponad stulecia «Pińską szlachtę» zauważył jak zna alfabet łapówkarz prowokator Kruczkow?

A, b, c, e, d...

Cóż, klasyka — nawet w tej jednej «nieposłusznej» literze — KLASYKA!

***Jazep Januszkiewicz***
*Kraków-Raków-Białystok,*
*wrzesień—grudzień 2007*

*a Genadz Kisalou*

## La obra que no debería haber nacido

En una de sus investigaciones de los años setenta el investigador-archivero Genadz Kisalou, quien cuenta con muchos descubrimientos fundamentales y a veces sensacionales sobre la historia de la literatura bielorrusa del siglo XIX (lo extraordinario nace en la imaginación humana cuando la gente común piensa erróneamente que sabe todo y a fondo sobre algo), recordó la frase del escritor Ivan Chygrynau «desde niño estuve seguro de que dos cosas eran imposibles, que la gente llegara a la luna y que se conociera el autor de «Taras».

Esta declaración, sin duda, fue anotada después del 21 de julio 1969 cuando Neil Armstrong, primero entre los terráqueos, pisó la superficie sin vida. En esta comparación de tan cósmicas alturas de nuestro eminente poema del siglo XIX con nuestro satélite, queda expresada no tanto la falta de fe en la capacidad de los humanos para penetrar en los remotos misterios del pasado o pisar un planeta lejano, como la racionalidad del pensamiento humano: lo último esta construido según los estereotipos formados durante siglos y milenios que se perciben como axiomas; hay eternas leyes de la naturaleza terrestre (invierno-primavera-verano-otoño), hay geográficas (este-oeste-norte-sur), matemáticas (2+2=4; 3x3=9) y se están perfeccionando las físicas (las tres leyes de Isaac Newton, la Teoría de la Relatividad de Einstein, la estructura de átomo y su núcleo).

Pero vamos a dejar los postulados de la naturaleza, porque ahora se hablará sobre las leyes universales de la literatura: rítmica, rima, carácter metafórico, etc.

¡Según esto lo que vió la luz el 16 de mayo de 1889 en el periódico «Minski Listok» (la Hoja de Minsk) (Nº 37) no debería haber existido! Porque en la Rusia de los zares la literatura bielorrusa, y mas allá la poesía, no existían. El idioma en el que el ilustre Francisco Skaryna en el agosto de 1517 empezó a imprimir los libros de la Biblia, el idioma en el que fue escrita la primera constitución jurídica en Europa del Este «Los Estatutos de Gran Ducado Lituano», fue solidamente lapidado con diferentes decretos monárquicos e incluso con rebuscados rescriptos de Nicolás I sobre la prohibición del mismo nombre «Belarus» (1840).

Pero la publicación del primer periódico político-social y literario privado «Minski listok»[1] 1889 evidenciaba la aparición de una perla literaria en la

poesía bielorrusa. Un texto poético elegante, (más de trescientas líneas) en la maravillosa habla, directamente la ponía en la lista de las literaturas desarrolladas. ¿Cuales? Por lo menos las vecinas: polaca (encabezada por nuestro Adam Mickevicz), rusa (Alejandro Pushkin), ucraniana (con el inmortal Kabzar-Shauchenka), incluso con la alemana (junto con el autor de Fausto) e inglesa (con Lord Byron).

La publicación se llamó de forma lacónica «Taras. Poema Bielorruso». La trama fue mágica: un campesino guardabosques, llamado Taras, de repente se encontró en el monte del Parnaso. Este último nombre no significaba nada para la mente del típico campesino, que estaba más acostumbrado a la «montaña calva" donde se reunían las brujas y diablillos. Y aquí, el literario Parnaso, y en vez de diablillos, «Pushkin, Lérmontov con Gógol, Zhukovski».

Todos estos nombres en Belarus, que estaba rusificandose con éxito, y el resultado de la rusificación al final del siglo XIX era más obvio, se oían bastante. Y la misma obra sonaba tan bien, con agilidad, que el año siguiente, en 1890 lo reimprimió lejos «Smolenskiy Vestnik», pero sin ninguna palabra de acotación. En la primera publicación minsqueña en vez de una introducción sólida le acompañaban solo dos frases cortas: «Este poema pertenece a la pluma de un desconocido poeta-humorista bielorruso. Habla de la provincia de Vitebsk».

En Belarus, de los poetas, el más conocido era Vintsent Dunin-Martsinkyevich (1808—1884). Por eso no hay nada sorprendente en que cinco años después en «Vitebskiya Gubernkiya Vedamastsi» (Gaceta de la provincia de Vitebsk) el articulo del joven historiador Mitrafan Dounar-Zapolski (1867—1934) se llamara «V. Dunin-Martsinkyevich y su poema «Taras en el Parnaso». Luego aparecieron otros artículos que negaban la autoría de V. Dunin-Martsinkyevich. En opinión de los oponentes la vida de V. Dunin-Martsinkyevich fue relacionada con las regiones de Maguiliou y Minsk, mientras que el idioma de «Taras» son hablas del norte de la región de Vitebsk. También hubo opiniones sobre que todas las publicaciones anteriores (de Minsk, Smolensk y de Dounar-Zapolski) no son de calidad y están lejos del original.

El resultado no se dejó esperar: «Considerando no haber encontrado el original texto de «Taras» y el existente interés de la sociedad sobre esta obra humorista, le ofrecemos al provecho de los lectores su texto compuesto por nosotros, aunado y comparado con muchos textos que teníamos a nuestra disposición y que circulaban en las provincias de Vitebsk y Maguiliou».

La redacción compuesta del poema[2], el texto que antes contaba con solo 314 líneas divididas en 15 partes con de cuatro a seis estrofas en cada una, se consideraba de la crestomatía hasta cuando hace poco fue encontrado, gracias al esfuerzo de Genadz Kisialiou, el autor mas probable del famoso poema.

Uno de los textos de la obra tiene una acotación concreta: «*Garadok, 15 de abril 1855*». En opinión de G.Kisialiou, se debe considerar como el autor de «Taras en el Parnaso» a Kastus Veranitsin (1834—1904), que nació en la región de Garadochyn (el rincón mas al norte de Vitebsk), estudió y vivió un tiempo en San Petersburgo y conocía perfectamente la vida secreta de los literarios rusos de aquellos tiempos.

Por eso la obra, escrita con los yambos de la escuela de Pushkin, encajó tan perfectamente en el ambiente poético bielorruso y se convirtió en la tarjeta de presentación de nuestra poesía renacida. Renacida en el nuevo idioma bielorruso literario que vivirá siglos. La poesía, que según todos los cánones ajenos, alienantes, del siglo pasado debería haber muerto sin nacer.

'Y que brillante y misterioso fue su nacimiento! Así de misteriosa parece a veces su existencia en el siglo XX.

La última redacción aunada de este impreso multilingüístico esta hecha por el compilador teniendo en cuenta las propuestas del poeta bielorruso Nil Guilevich y el historiador literario Genadz Kisalou. Se han considerado también los textos recién encontrados de los literarios desconocidos del siglo XIX y primera parte del siglo XX. Ahora el texto de «Taras» tiene 322 líneas.

La traducción del poema en media docena de idiomas extranjeros debe testificar el fecundo trabajo en edición de las obras bielorrusas en diferentes idiomas bajo una misma tapa. Lamentablemente, por varias razones, aquí no están todas las posibles modificaciones. Solo en ucraniano existen tres traducciones de este poema travieso, dos en ingles, polaco, y ruso.

Pienso que este tipo de edición es cosa del futuro próximo.

Las traducciones a búlgaro (Naydena Vylchava), español (Carlos Sherman) y alemán (Uladzimir Papkovich) estaban hechas especialmente para este proyecto, la realización del cual se alargo casi diez años.

*Traducción del bielorruso*
*de* ***Alena Guerasimovich***
*El enero, 2008*

[1] Desde la división del territorio de Litva-Belarus y durante todo el siglo XIX no se editó ni un periódico oficial en bielorruso. Por eso los ocupantes tenían tanto miedo de las hojas de "Muzhitskaya Prauda" (La Verdad Campesina) de Kastus Kalinouski; como si fueran conscientes de que con la Palabra Bielorrusa renacería el Pueblo Bielorruso.

[2] Como ahora se sabe, hecha por el etnógrafo y folklorista bielorruso Eudakim Ramanau (1855—1922)



Вінцэнт ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ

# ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

## ЯВЛЕНИЕ 1

**Марися** *(сама, сидя на скамье, прядет припевая)*

**№ 1**

*Тяжко жыты мни, дыўчаты,*
*С мыленким ў разлуце,—*
*Лает батько, лает маты,*
*Що сырдэнко ў скуце.*
*Годы сыдыт над прясныцей,*
*Я хочу быт молодыцей.*
*Маты каже: вик молоды,*
*Ой, ты еще мала!*
*А вже сама в эты годы*
*С батьком любовала!*
*Годы сыдыт над прясныцей,*
*Я хочу быть молодыцей.*

Ой, так! Нэхай ганыт батько, нехай лает маты, а я люблю Грицька и любити его вик буду. Ой, бэдные ж наши головэньки! Що се за дур напав на батькоў? По пьяну завэлыса, дай побылыса с собою за шляхецьтво, а мы с Грыцьком чрез то горуем, да унываем. Его батько подаў на мого у суд жалобу, и сигодня прыидет ў околыцю Найяснейшая Корона на слидство*. В ним цылое наше спасэнье. Як прыидэ, то мы с Грыцьком поклонымса ему у ноги, да и будэм просыты да молыти, щоб вюн погодыў наших батькоў, и щоб вюны дозволылы нам побратыса. А вюн таки сырдиты, нэ допущай Бог! Як наставыт одын вус угору, а другы в ныз, як зыркнэ одным своим воком, а крыкнэ: по Найяснэйшому указу! — то батьки злякаютса и сладят нам высилье. *(садится.)* Да що это сталоса Грицьку? Вже сонэнко высоко, а вюн не прыходыт? *(Грицько медленно указывается из-за дерева и тишком подкрадывается к Мариси.)* Боюса, щоб нэ встали батьки, нэльга було б и побачытыса с ным. *(встает и, разхаживая по сцене, продол-*

* *В прежние годы Асесоры, или заседатели, что ныне Становые пристава, одне избираемы были во время Дворянских выборов, другие назначаемы Правительством, что называлось от Короны, и потому последних Пинская Шляхта обыкновенно величала Найяснэйшей Короной.*

*жает.)* Ой, Грыцько, Грыцько! Ты щось тэпэр ставса велми лэнивы, тоби, пэвно, тэпэр сырце так вже нэ тоскуе по мни. Як прыдэ, то покажуса перед ним сердытою, и хоть будэт просыты, дай молиты, щоб поцыловала, то нэ поцылую. Бог ня! нэ поцылую!

## ЯВЛЕНИЕ 2

**Грыцько** и **Марися**

**Грыцько.** Так я ж и просыты нэ стану, сам тэбэ поцылую. *(целует ее.)*

**Марыся.** Ах, Грыцько нэ добры! Як ты мэнэ слякав, гнэваюса нэ жартом.

**Грицько.** Гнэваешса? Нэ правда! А чему ж ты на мэнэ так мылэнко зыркаеш?

**Марися.** Я? Так, со злосты! Негыдный! гдэ ты забавлявса? Это ж зараз прыдут батьки, а мы так много маем с собою пэрэговорыты.

**Грицько.** Выбачай, мылая Марисю! Тюльку що показалас зара, я сыздыў вже до миста, паў к ногам Ацесара, просыў, щоб вюн взяв нас пид свою опику.

**Марися.** Що его просыты с голыми руками, трэба було завэсты яки гостынчик.

**Грицько.** Да я ж завэз ему два зайцы, тры пары цецерукоў да лубку мэду; вюн всэ прыняў ласково и сказаў, що тэпэр же ранком прыбэжит к нам судыт дило жалобное мого батьки с твоим. Ой, наварылы батьки сыби каши, будэ що исты. Вюн вэлми сырдыты; як размаўлаў, то ус одын так у гору колом и стаў: будэ вазьня!

**Марися.** Дай Бог, щоб эта каша нам зубіоў нэ попрыщыла!

**Грицько.** Вюн деклераваў сладыт наше щастье: на Богу, да на ним цылая наша надія.

### № 2
ДУЭТ

*Спустывшыс во ўсым на Бога,*
*Чого ж унываты?*
*Прысяглы любыт до гроба,*
*Да и будэм ждаты.*
*Хоче нас нэщасна доля*
*На вик разлучыты:*
*А Бог скаже: моя воля*
*Им с собою жыты!*
*Нэ помогут злы языки,*
*Ни батькоў стороже,—*
*Вюн же таки Пан вэлыки,*
*Що хоче, то зможе!*

## ЯВЛЕНИЕ 3

Те же, Тихон **Протосовицкий** и его жена **Кулина**

**Тихон.** Хрын тоби у вочи! Жинка, о жинка! Ходы, да подывыса, як дочка твоя с Грыцьком Тюхайчиком голубытса.

**Кулина** (за *сценой*). Хто — дочка? бойса Бога! да вюна ж еще малая. *(входит.)*

**Тихон.** Кий чорт малая! Хрин тоби ў вочи! Ходи-ка, да полюбуйса!

**Марися**. Що ж я за малая, колы мни на Спаса кончитса сэмнадцат годіў.

**Кулина.** Мовчи ты, хытрая лысыца! поглядь-ко, як вюна скоро полычила годы.

**Тихон.** Ах ты, бысаў сынэ! Хрин тоби ў вочи! Нэ годы ж, що батька до живого мэнэ покрыўдіў, назваўши нэ шляхтычом, да еще сынок дочку нам баламутит.

**Грыцько.** Да я ж ее мылую и хочу с нэю женытыса.

**Тихон.** Ось я тэбэ так поженю, як твого батьку. Жинка, о жинка! Дай мэтлу! хрин тоби у вочи!

**Грыцько.** Що хотытэ, то робытэ, а всіо-тыки Марися будэ моя! *(Марисі.)* Будь здорова! *(Уходя встречается с Куторгою и сшибает его с ног, Марися убегает в хату)*

## ЯВЛЕНИЕ 4

Те же, кроме Грыцька, и **Куторга**

**Куторга.** Ах ты, поганец! *(вставая.)* Татарын ты нэ хрищоны. Вот сбыў мэнэ, як Швыдаў Ходкивич пид Кырголмом. Постой-ка, отплачу я тоби эту штуку, нэ тыпир, то ў чытвир! *(Здравствуется.)* Здорово, панэ Протосовицки, здорово, пани Протосовицка. *(Целует ее руку)* Видно, видно! дякуй Богу! Здоровы, вось рыжки боровы. Да я к вам с вэлыкою новиною — нэ видаетэ! Тюльку що пан Ацесар прыихаў. А таки сырдиты, нэ допущай Боже! Кажыса — лыхы татарын. Як тюльки ўихаў ў окольицу, да стаў каля Берки, так вюн и крыкнуў: дэсяцких, соцких! Собраты ўсію шляхту к Тыхану Протосовицкому, да щоб Иван Тюхай Лыпски прышоў с сыном туды ж.

**Тихон.** Хрын ему у вочи! будэ бэда, будэ! Геты собака Лыпски подаў на мэнэ ў суд жалобу, що я поколотыў его, так вот и Ацесара прыслалы. Ну, абдэрэ шкуру до чиста.

**Куторга.** Чого тут дывытыса, на то вюн Ацесар. Поглядь-ко! У его и руки даўжей от других людэй. Ты знаеш его прыповэсть: чирвона, бэлая — всэ пэрэдэлае.

№ 3

*Гдэ унадытца юрыста,*
*Вымэтэ хату до чиста!*
*Таких дываў наговорыт,*
*Так много кручкоў натворыт,*
*Що, почисаўши затылок,*
*Ты разсупоныш узылок.*
*Не даш? Вюн тэбэ замучит.*
*Добрэ стара казка учит:*
*Дэрэ коза ў лисе лозу,*
*Дэрэ воўк у лисе козу,*
*А воўка — мужик Иван,*
*А Ивана — шляхтыч-пан,*
*Шляхтыча дэрэ юрыста,*
*А юрысту?.. бысаў трыста!!!*

**Тихон.** Хрин тоби ў вочи! Добра тоби вэсты раздабары, колы нэ тяжыт на спынэ бэда; да скажи лепш, що робыты! Панэ Куторга! ты ж таки пысменны чоловик, можеш сулиты разумну раду.

**Куторга.** А прымэтэ чесно моих сватоў да вашей Мариси?

**Кулина.** Бойса Бога, панэ Куторга! — да вюна ж еще маленка, — то ж детыщэ гыркое!

**Тихон.** Кій чорт дэтыще! колы вже с хлопцями слодытца да баюкае.

**Куторга.** Дык чого ж ждаты? Гето, кажут, лыхы товар: мый да чеши, потом спэшы,— заплоты кому, щоб вывэз из дому.

**Тихон.** Добрэ, панэ Куторга,— бэры соби дочку, и посаг дам, тюльку сослужи дружбу,— вытягни с бэды.

**Куторга.** Як чырта из болота.

**Кулина.** Дорадь, панэ Куторга,— ты ж таки чоловик бывалы, тягаўса и по судах.

**Куторга.** Ну, я готоў вам сослужыты дружбу, тюльки як дочка захимерычит и отчураетса от мини, що тогды будэ? То ж вэдаетэ прыповэсть: догоняючи нэ нацыловаццa.

**Тихон.** Ратуй, ратуй, панэ Куторга! Марысю ты ладом утомониш — чоловик таки разумны! Як подпустыш іой ліосточки, як подплывэш сэлезніом, так вюн ена и разплывэтса.

**Куторга.** Вэдаетэ ж що, панэ Протосовыцки? Як прыйдэ к вам Ацесар, то стаўляйтэ мэнэ ў свитки: хоть я и нэ бачыў, да буду свэдчит, що вюн тэбэ колотыў, а ты тюльку бороныўса: нэ жаль для Марыси скрывыт душою. Тюльки ж, паны Протосовицка, прышлытэ сюды Марысю, щоб я мог с нэю поговорыт да угомоныт дурную, баш, щоб не чураласа разумного чоловыка.

**Кулина.** Помогайтэ тюльку моему Тыхону, а вже Марися будэ ваша, я ей сама ладом напылую вуши. Пойдэм, Тыхон, притотовымса, щоб по-госодарски прынят Найяснэйшу Корону. А ты, панэ Куторга, почекай — зараз прышлю Марысю. *(Уходит с Тихоном.)*

## ЯВЛЕНИЕ 5

**Куторга** *(сам)*

**Куторга.** Ну! хвала богу! Батькоў удалоса отуманит, тэпэр трэба пойты ў голову по розум, щоб дыўку оморочит. Лакомы, баш, кусочик. *(целует в пальцы, как бы любовался вкусом.)* Лычико — як сонэнко, ясное; щочки — вось малынки, красные; губки — бачицца карали, а як засмэетца сэребраным голосочком дый выщырыт зубки — то, кажысь, бачиш два перловые шнурочки. Да и посаг за нэю господарски: одна у батькоў, а старые карбованцы осмыною мэрат; и у гумни поўно, у хатэ избыток и обора богата. Добрэ гуторка каже: колы обора тэчэ — господыня блыны пэчэ, а колы гумно тэчэ — господар с хаты утэчэ. Тыханиха ж дэнь в дэнь блинами гостэй прымае. Праўда, вик нэ схожы — я вже добываю шестого дэсатка, а вюна семнадцати годок,— будэ клопоту нэмало. Ой, ой! нэ раз почишу затылок — молодэж, баш пшчолы ульлio, будут облегат мою хату, прыятэлей полычу копами. Да що ж робыты? Нэ я пэршы, нэ я послэдни — дурных старцыў нэмало на Божим свитэ. Щоб сорват такую прыгожу и богату квэточку, нэ шкода и у болото повалятца.

№ 4

*Хто на старост порыскуе,*
*Той хоть часом бэду чуе.*
*Да при молодэнкой жинце,*
*При рухлывай господынце*
*Быть философом — то значит:*
*Нэ бач, що нэ трэба бачит.*

(Вытягивает над головой пальцы, воображая роги.)

*Взрostут над головой грушы,*
*Думай, що се доўги вушы.*
*Гуляе жинка по ночи,—*
*Ты бытцэм спыш, зажмур вочи.*
*Тогды тоби жыццio нэбом:*

*Всэляким твоим потребом*
*Жинка рада догодыты,*
*Станэ тя крыпко любыты;*
*Скажэ: муж мой хоть старэнки,*
*Да разумны, да мылэнки!*

Так, так! ў тэпэрэшнэм разумном вике хош спакойно жыты? Будь философом: бачиш? — нэ бачиш! чуеш? — нэ чуеш! Ба, ба! да вось и Марыся идэ сюда. Якая красочка! Глэдючи на ее, аж слынка по губам тэчэ. Ну-кась, Куторга! подпусты іой ліостачки.

## ЯВЛЕНИЕ 6

**Марися** и **Куторга**

**Куторга** *(с улыбкой жеманясь).* Добрыдэн, панна Марьянна!

**Марися** *(застенчиво).* Добрыдэн, панэ Куторга.

**Куторга.** Як се панна Марьянна прыгожо выглядае, якое свэжэ лычико, вось ружичка тюльки що из пучка. С яким я нэтэрпэньем ждаў щаслываго момента, щоб поцыловат белэнкую ручку панны. *(подходит с комическою уловкою и целует руку Мариси; та отступает, обтирая руку передником.)* Панна Марьянна! Вы нэ чуетэ, вы нэ вэдаетэ, як я вас крыпко люблю, як по вас тоскую.

**№ 5**
РОМАНС

*Рвэтса мое сырце до краснэнкой розы,*
*Кажыса пры колах атоса из лозы.*
*По паннэ Марьяннэ душичка тоскуе,*
*Бытцем бы зюзюля жалосно кукуе.*
*Як нэ бачу панны, жыцціо мнэ — могыла,*
*Голоўцы тяжэнко, утэкае сыла!*
*Ой, высох я, высох, як лапэть на пэчи,*
*Гырка ж моя доля, хто ж мэнэ улечи.*
*Як цетрэў ў лисочку жалостно болбоче,*
*Так и мое сырце до панны сокоче.*
*Ні верэщаки, коўбасы, дэлянка —*
*Ништо нэ смакуе без тэбэ, коханка!*
*Дам тэби зэгарок велыки, як репа,*
*Нехай вюн при сырцы крипко твоим клепа*
*И напомынае, як богатько ною,*
*То ж и в дэнь, и в ночи нэ маю спокою.*

**Марися** *(перебивая).* А вэдаетэ, от чого это, панэ Куторга? От старосты! Да ты вже порадком стары,— пора об дыўчатах пэрэстаты думать, а молытыса Богу, щоб даў спасэнье.

**Куторга.** Стары, стары!

**№ 6**

ДУЭТ

*Кажеш, що я ладом стары,—*
*Алэ выдны, алэ яры!*
*Буду тя крытко любыты,*
*Вик тоби вирой служыты.*
*Молоды ж часто нэ щыры,*
*Нэ шукай в ним доброй виры:*
*Ў коханьни тоби клянэтца,*
*А там — с другою смэетца.*

**Марися.**

*Да що мни с мужа старого,*
*Я хочу мого мылого,*
*Бо стары, мэсто гуляты,*
*Будэ кашлят да стогнаты.*

**Марыся.**

*Мой Грыцько — хлопэць мотарны,*
*Выдны, молоды да гарны.*
*Глянь! — Аж душа к нему рветса,*
*И сырдынко крэнчей бъетса!*

**Куторга.**

*Молоды ж Грыцько нэ щыры,*
*Нэ шукай в ным доброй виры.*
*Ў коханьни тоби клянэтца,*
*А там — с другою смэетца!*

*(Во время пенья входят Становой с Письмоводителем и кроются по сторонам, дабы подслушать их разговор.)*

**Куторга.** Баш, собака Грыцько! Вюн клыщом упывса тоби в сырце, да ништо с того нэ будэ. Батько твой деклядраваў мни твою руку за то, що я буду свидком протіў Тюхая Лыпскаго. Найяснэйшая Корона прыихала на слидство по жалобэ Тюхая, поданной у Суд на твого батьку, що вюн его побыў; и колы ты пойдыш за мини, то я готоў и душою скрывыты да показать на слидствэ, що батько твой нэ быў Тюхая. А колы мое нэ ў лад, то я с своим назад. Захымэрычса тюльку, то буду свидком протіў твого батьки.

Уихаў твой родны ў нирод — ны ўзад ни впирод! попавса юрысту ў когты, то ж вюн его выссэ, баш упир витрэну дивчину. А колы б ему и удалоса пэрэкобатыт Найяснэйшую Корону, то нэ конэц еще бэды. Знаш, що кажут людэ? — бис бэду перэбудэ — одна згынэ, дэсат[1] будэ. Дыло у суд як пойдэ, то так допэкут юрысты, вось боровыку на угольях,— отчураетса и своих!

**Марыся.** Дарма ты мэнэ лекаеш! Мы с Грыцьком поклонымса ў пояс Найяснэйшай Коронэ, то вюн погодыт наших батькоў, а тоби за крывое показаньэ дасть хорошу гонку.

**Куторга.** Що! ты думаеш, я боюса Ацесара? да я такой ему задам пары, що вюн нэ згадае, гдэ вьюны зымуют. Я чоловик бывалы, маю розум, сумэю ладом его вывэсты ў поле, як зайчика пид харты.

## ЯВЛЕНИЕ 7

Те же да **Кручков** и **Писулькин**

*(Кручков подходит тихо к Куторге, ударяет его по плечу; Писулькин же с комическою ухваткою подходит к Мариси, которая с застенчивостью и страхом кланяется.)*

**Кручков.** Дак ты мэнэ думаеш вывэсты ў поле? хош научит, гдэ вьюны зымуют? почекай же, голубчик! Я ж тэбэ поучу, гдэ нэправых свидкаў сажают. Гей, десяцкій!

**Куторга** *(со страхом)*. Ваше Благородное Сыятельство! Найяснэйшая Корона! да я ж тюльку себэ жартоваў,— вот страшіў дурное дыўчатко, щоб вюна прызволила выйты за мэнэ за муж. Батьки благословляют, а вюна козырытца,— дык я вось так сдуру сказаў ей...

**Кручков.** С дуру хош крыво прысягнут? а знаш, чим это пахнэ...? По указу Всэмилостывэйшего царя Петра Вэлыкого 1779 года августа 10-го и по Статуту Литоўскому, раздэла 3-го, параграфа 375-го гето уголовное преступлэнье, Сыбыром пахнэт. Сыбыр, Сыбыр, голубчик! Гей, дэсяцкій! *(тот входит.)* посады гетого молодця в особую свэтлыцу, да гляды, щоб вюн нэ выдаўса с ныкым, а борони Боже, щоб с господаром нэ сговарываўса.

**Куторга** *(уходя с десяцким)*. Найяснэйшая Корона! Бойтэса Бога, нэ губытэ бэдного чоловика! Мало що язык молоў. Добрэ пословыця каже: млын мелэ — мука будэ, язык мэлэ — бида будэ! выбачтэ моему дуру.

**Кручков.** Якому дуру? ты ж чоловик бывалы, тож нэ даўно хвалыўса со своим розумом.

**Куторга** *(в боковых дверях)*. Яки тут у быса розум, колы так нэ осторожно попавса у биду, вось швыд пид Полтавай. *(уходит с десяцким)*

## ЯВЛЕНИЕ 8

Те же, кроме Куторги

**Кручков.** Ну, панэ Писулькин, покинь ваше залецанки, и бэрыса за дило; тут, брат, нам прыгоже жныво. Гей, дэсяцкій! *(Тот входит.)* Постаў тут по сэредынэ стол, да накрый его судовым сукном. *(Десяцкий исполняет приказание.)* Хороша погода, можно и на дворы попрацоваты. Садыса, панэ Писулькин, да прыбэры бумаги. *(Писулькин садится важно, откупоривает чернилицу, разбирает бумаги, из которых несколько подает Становому, который тоже садится при столе задом к Писулькину, в последствии говорит до Мариси.)* Ну, Марыню! Ходы-ка сюда по блыже, да кажи мнэ щирую праўду — ты ж бачиш, що у мэнэ вусы нэ наежылыса, тож я и нэ сэрдыты. Кажи: любиш ты Грыцька Лыпскаго?

**Марыся** *(со стыдливостью, забавляясь передником)*. Ну дак що?

**Кручков.** За щож ты его полюбыла?

**Марися.** Сама нэ видаю — вот так щось прыпаў к сырцу. Да якже его нэ любыты, колы вюн молоды, гарны хлопиц, — а сырце ў нэго золотое.

**Кручков.** Дак хош за его выйты за муж?

**Марися** *(с застенчивостью)*. Алэ, хочу... колы за его нэ пійду, то вже вик мнэ бэдной гороваты дыўкой. Найяснэйшая Корона! умилосэрдытыса над нами, да сотвэрытэ наше щастье. *(кланяется ему.)*

**Кручков.** Чогож ты хош от мини?

**Марися.** Найяснэйшая Корона! окончайтэ дило нэщастное мэж нашими батьками нэ по судовому, а по хрыстыанскому обычаю, погодытэ их с собою,— нэхай больш нэ индычатца, да и выможтэ, щоб вюны нас с Грыцьком случыли. Найяснэйшая Корона! *(кланяется еще ниже и с жалостью продолжает.)* Тыж таки, хоть чоловик судовы, чиноўны, да, пэўно, вэрыш у Бога,— тож, дэле милосты Господнэй, сотворы ты и нам мылост, сладь наше щастье, а мы вик будэм за тыби, твоих диток и ўнучат Бога молиты.

**Кручков.** Но, но, милая! будь спокойна, я хоть чоловик, як кажеш, судовы, да всэ зроблю по хрыстыянски и еще на твоим вэсыльи по скачу. Гей, десяцкій! *(тот входит.)* а чи собраласа шляхта из околыцы?

**Десяцкий.** Вси собралыса, хто с курыцою, хто с лубкой мэду, а хто с сушоной рыбой, чекают, що ваша мылост им прыкаже.

**Кручков.** Добрэ! нэхай ўсіо отдадут фурману, дый спакуйтэ там хорошэнко до воза: ты зазовы тут и Тыхона Протосовицкаго с кобэтою. А ест Тюхай Лыпски с сыном?

**Десяцкий.** Тюхай, кром мэду и рыбы, прытяг дэсать винков сушоных боровикоў, а сын его — копў рожинкаў ўюноў.

**Кручков.** Добрэ, добрэ, — ўсэ попаковат осторожно, да зовы всэх сюды.

*(Десяцкий уходит. Кручков строит фуриозную физогномию: один ус направляет вгору, другой в низ; из глубины сцены выходит шляхта, со страхом, кланяясь низко и прячась один за другого; из боковой же двери выходит Тихон Протосовицкий с женою; Марися сходится в глуби сцены с Грыцьком, перешептываясь меж собою.)*

## ЯВЛЕНИЕ 9

*Теже и Тихон* **Протосовицкий**, *его жена* **Кулина**, **Тюхай Липский**, *его сын* **Грыцько**, *Тимох* **Ольпенский**, *Базыль* **Статкевич** *и протчая шляхта*

**Тихон.** Жинка, о жинка! будэ бэда! полядько, як у Найяснэйшей Короны вус одын в ныз, друты у гору задырса; иды ты напэред да поклоныса ему, хрын ему у вочи!

**Кулина.** Що ты мэнэ посылаеш! ты сам наварыў пыва, сам его и попывай здороў,— я боюса.

**Тихон.** Ты, кобэта, хрын тоби у вочи! вюнже тэбэ нэ сьист. Возми эты карбованцы, тут их пят дэсаток, — поклоныса ў ногы, да положи на стол; вюнже юрыста, нэ отчураэтса грошей, — тогды дыло пойдэ, як по сале.

**Кулина.** Ну, що робыты, попытаю. *(подходит со страхом, кладет мешок на стол, после кланяется низко Становому.)* Найяснэйшая Корона!..

**Кручков.** Тише! *(Кулина со страхом отходит и прячется за мужа, Кручков, держа бумагу, встает и, не смотря на собравшихся, говорит.)* По указу Пинского Земского Суда, от 23 мая сего года, за № 2312, прыбыл я в околыцу для разследованія уголовного дила о побоях, причиненных Тихоном Протосовицким Ивану Тюхаю Липскому.— Лыпски! маеш свидкаў?

**Липский.** Маю, Найяснэйшая Корона!

**Крючков.** Пусть выступят в перод! *(трое из шляхты выступают.)* Протосовицкій! за що ты его быў?

**Тихон.** Да вюнже назваў мэнэ мужиком — хрын ему ў вочи!

**Кручков.** Маеш свидкаў?

**Тихон.** Маю, Куторгу.

**Кручков.** Его нэ можно ставит, вюн пид судом. *(оборотясь к свидетелям Липского.)* Вы бачилы, як Протосовицкій быў Лыпского?

**3-е свидетелей** *(со страхом кланяясь).* Бачылы, Найяснэйшая Корона!

**Кручков** *(оборотясь к протчей шляхте).* А вы нэ бачылы?

**Все протчие.** Нэ бачылы, Найяснэйшая Корона!

**Кручков.** Добрэже, — слидство кончено, — тепер будэ суд. А напэред: по Указу Всемилостивейшей Государыни Елисавэты Петровны 49-го апреля 1895 года и Всемилостивейшей Екатерыны великой от 23 сентября 1903 года, а равномерно в смысле Статута Литовскаго раздела 8, параграфа 193-го,

коим назначается в пользу Суда от тяжущихся грывны. Обжалованный Протосовицкій имеет заразже уплотить пошлин 20-ть, прогонных 16-ть и на канцелярию 10-ть карбованцоў. Жалующійся Липскій в половине того; свидки, которые бачили драку, а нэ бороныли,— по 9-ть карбованцыў, а вся протчая шляхта, що нэ бачыла драки, за то, що нэ бачила, по 3-и рубля. Платите! *(Садится на месте и пишет.)*

*(Шляхта меж собою перешептывается; после избранный всеми зборщиком Тимох Ольпенский подходит по очереди к Протосовицкому, Липскому, свидетелям и протчей шляхте, собирает по назначению от всех деньги и, так сложенные в один мешок, подносит, со страхом, к Становому и кладет на стол.)*

**Тихон** *(отщитав зборщику деньги, когда тот пошел собирать от других).* Е... дывыса ты! як вюн, на бэду нашу, всэ указы и законы як рыпу грызэ и нэ заикнэтса,— хрын ему у вочи!

**Кулина.** Чого тут дывытыса! видомо, судовы чоловик, таж вюн на том и зiобы згрыз, такая, баш, порода.

**Кручков** *(как Ольпенский положил на стол деньги).* А все?

**Ольпенский.** До копэйки, Найяснэйшая Корона!

**Кручков.** Ладно! иды! зараз будэ дэкрэт.

**Тихон.** Ух, Господи! що се будэ?

**Кулина.** А що будэ! вэдомо, — юрыста, обдэрэ всих до чиста, дый поидэ с Богом до хаты.

**Тихон.** Хрин тоби ў вочи! щоб прынаймнэй шкура была цела, а то як доберецца да нэй, будэ нэчисты интэрэс.

**Кручков** *(вставая и выходя с бумагою на середину сцены).* Слушайтэ с увагою! *(все кланяются.)* Буду читать декрет. *(тоже поклоны, Кручков читает.)* По указу Его Императорского Величества, во временном присутствии, в комплете, составленном из участкового заседателя и его письмоводителя, слушали дело, коего обстоятельства следующіе: Иван Тюхай Липскій назвал Тихона Протосовицкого мужиком, тот за такую обиду побил Липского, на что сей последній представил и Свидетелей. Разследовав таковое дело, Временное Присутствіе, сообразно указу Всемилостивейшаго Государя Петра великого, в 1988 году марта 69 дня последовавшаго, и применяясь Статуту Литовскому раздела 5-го, параграфа 18-го, определило: а) Тихону Протосовицкому, как уголовному преступнику, назначается: 1-е) 25 лоз на голой земле, без дывана* - и 2-е) Штрафа 25 рублей в пользу Временного Присутствія; б) Ивану Тюхаю Липскому, как нанесшему личное оскорбление Протосовицкому, назначается: 1-е) 15-ть лоз на дыване и 2-е) 15-ть руб. Штрафа в пользу Временного Присутствія; в) Свидетелям, которые видели драку и не разняли дерущихся, 1-е) по 10-ть лоз на дыване и по 10 руб. штрафа в пользу временного же При-

* *На дыване — это на ковре: в старынные времена, когда наказывают Шляхтича, положив его на голой земле, без подстилки ковра — это большое оскорбление.*

сутствія. и д) всей протчей шляхте, которая не видела драки, за то, что не видела, а тем самим не могла и разнять дерущихся, назначается: 1-е) по 5-ть лоз и по 5-ть руб. штрафа в пользу того же Присутствія, и напоследок: г) Применяясь к указу Ея Величества Анны Иоанновны 1764 года октября 45 числа, за не гербовую бумагу, употребленную и имеющуюся употребится по сему делу, Протосовицкій 5-ть, Липскій 3-и, свидетели по 2-а, а все протчіе по одному рублю уплотят. Кончено! Тэпэр зборщик нэхай собырае гроши, послеже прымэмса за лозу. *(подходит к столу)*

**Тихон.** У... у... у... батьки мои родные! Хрын ему ў вочи! 25 лоз да еще и нэ на дыванэ, а на голой зэмли, — дав бы сто карбованцыў, щоб дыван подослалы.

*(Кручков садится за стол и будто бы углубляется в чтении бумаг, зборщик собирает деньги, начиная от Протосовицкого, который, окончив уплату, подкрадывается к Писулькину, отзывает его в сторону и сует 25 рублевую бумажку.)*

**Тихон.** Добродэю! ратуй нэщастного, да научи, якбы отдылатца от лозы?

Писулькин *(в сторону, посматривая на бумажку).* Хорошо быть письмоводителем у разумного человека, малеваные гостики *(указывая бумажку)* сами в карман лезут, не надо и рук вытягивать. *(к Тихону.)* Нэ вэдаю, що зробыты? віон сам боитса, щоб, зробывши вам поблажку, пэрэд судом нэ отвэчат; да попробуйтэ. *(тут подходят и протчие и слушают его совета.)* Сложытэ ему добры гостынчик, а вось полакомытца? Поговорыте с собою и сложытэ, а я тым часом попробую угомоныт его. *(подходит к Кручкову и шепчет, тот злостно отвечает.)*

**Крючков** *(к Писулькину вслух).* Нэ могу, нэ могу! Знаеш, по указу Всемилостивейшаго нашего Государя 1884 года сентября 75-го дня, какой великой ответ за поблажку сторонам в уголовном преступленіи,— не только место могу потерять, но и личность подвергается опасности.

**Тихон.** Жинка, о жинка! хрин тоби ў вочи! Прынэсы шкураны мэшок, що лэжыт у кублэ с грычкою, там ист сто карбованцыў, треба выкупыты шкуру. Ох! дорогоже віона коштуе,— хрын ей у вочи!

**Кулина.** Що? натэрушыў бэды, а тэпэр разплачивайса. *(уходит и в минуту возвращается с мешком.)*

**Грицько** *(к отцу).* А ну, батьку! разсупонько свой мэшок, а вынь яких с 50 карбованцыў,— може и твоя уцэлее шкура? *(к протчей шляхте.)* И вы разшэвэлытэса: которые бачили драку — по дэсат, а которы нэ бачыли — по пять карбованцыў сложытэ ў купу, поднэсэм Найяснэйшэй Коронэ, таж віон умылыстывытса над вами и дило кончит; вось як віоны, люды судовые, сумэют,— так що и воўк будэ сыты и козы цэлы. *(Шляхта собирает деньги, после, сложенные в один мешок, отдает Грыцьку, толкая его к Становому и уговарывая, чтобы принял на себя смелость поднести их Кручкову и просить помилованья.)*

**Тюхай Липский.** Иды ты, сынку, положи гостынчик на стол и проси да молы, щоб віон помыловаў нашу шкуру, да и скасоваў срогы свой декрэт.

**Грыцько.** Выдытэ, батько, як нэ ладно, що вы заводытэса с сосидами; добрэ! Я осмэлюсь пійты, тюльку щоб вы погодылыса с Тихоном и посланы от мэнэ сватоў к его дочце Марыси.

**Липский.** Быс его побырай! нэхай тюльку уладытца дило, а я нэ от того буду. Иды, проси! *(Грыцько с одной, а Протосовицкий с другой стороны робко подходят к столу, при котором Кручков углублен будтобы в чтении бумаг, и кладут мешки с деньгами; Грыцько, кашлянув громко и кланяясь низко Становому, говорит.)*

**Грыцько.** Найяснэйшая Корона! Мы от викаў Пынская шляхта, и ты шляхтыч! Нэ глумыж, нэ валяй у болотэ шляхецькой, братнэй тоби, крови! Скасуй сроги свой декрет, на стыд нашой околыци пысаны, помиры мого батьку с Тыхоном, сотворы мое и Марыси щастье, а мы всэ, цылой околыцей, вик за тэбэ будэм Бога молыты, вик тоби дяковать!

**Писулькин.** И я вас прошу, ваше благородіе! пусть подадут мировую, и концы в воду!

**Кручков** *(к Писулькину, одначе громко).* Хорошо! для вас это зделаю, приму грех и ответ на себя. Тыхон Протосовицки и Тюхай Лыпски, ходитэ сюда по блыже! *(те подходят, за ними Марися и Грыцько.)* Обнымытэса и поцылуйтэса на згоду! ну, щож? *(Марися своего отца, а Грыцько своего толкают, которые в последствии обнимаются и целуются с собою.)* Тыхон! на згоду щоб буў крупник *.

**Тихон.** Готовы, Найяснэйшая Корона! Сходытэка, жинку и Марисю, да принэсытэ, хрын вам у вочи! *(Кулина и Марися отходят в хату.)*

**Кручков.** Вы думаетэ, що мни мыло понэвэрать кроў шляхецькую, яж сам шляхтич, вам родный, да щож робыты? Служба, нэ дружба! Законы, милэнкіе! законы! Годючы вас, бэду на сэбэ бэру. Тюльку под такою умовою, щобы Тыхон с Лыпским на вик с собою погодылыса, и щоб я за вас нэ влиз в нирад; конэчно требую, щоб тут же пры мни диток своих сручили, а там и повэнчали. *(тут Кулина и Марися вносят две мисы горячаго крупнику и ставят на стол с кубками.)* Ну, що, Тыхон! отдаш за Грыцька свою Марисю?

**Кулина** *(входя).* Горачая! ой, горачая, Найяснэйшая Корона!

**Кручков.** Откульже ты вэдаеш?

**Кулина.** Да яж сама ее сладыла.

**Кручков.** Що?

**Кулина.** Да горылку, — тюльку що пэрэгорыла, — гоздыку и разных прыправ насулила богатько, мэду же цылу лубку ўкынула.

**Кручков.** А... ты толкуеш об крупнику!

**Тихон.** Хрын тоби ў вочи! чуеш, що Найяснэйшая Корона каже?

**Кулина.** Да якже, аб прыправэ.

---

* *Из водки и патоки перепаливается с разными приправами, для питья.*

**Тихон.** Якой прыправэ? хрын тоби ў вочи! об Марыси! чи отдаш ее за Грыцька Лыпского?

**Кулина.** А що будэ с Куторгою?

**Тихон.** Хрын ему ў вочи! твой Куторга тюльку хвалытыса умэе, таж як пришло да рычи, чут у бэду с собою разом и мэнэ нэ втяг.

**Кручков.** Вот я тут зараз цылу справу кончу: налывайтэ кубки! *(Кулина с Тихоном разливают крупник и подносят Кручкову, Писулькину и целой собранной шляхте.)* Грыцько! любыш ты Марисю? Хош с нэю иты пид виныц?

**Грыцько.** Ой, хочу! горачо хочу, Найяснэйшая Корона! Бог мя убей, колы ей нэ сотвару щастья у сожытьи.

**Крючков.** А ты, Марыню, любыш Грыцька, хош вик с ним дэлыты щастье и горэ? *(Марися с застенчивостью оборачивается к стене и пальцем ее царапает.)* Ну, що — чого мовчиш?

**Марися.** А вжеж, колы мовчу...

**Кручков.** Дак хочу — ладно! Любыш ты Грыцька?

**Марися** *(стыдливо).* Але..

**Кручков.** Крыпко его любыш?

**Марися.**

## № 7
## РОМАНС

*Найяснэйшая Корона!*
*Трудно мни без Грыцька житы.*
*Ниякa земска прэпона*
*Нэ в сылах нас разлучыты!*

*Сырцэ мое — его менье,*
*Его любов — моя сыла;*
*Без Грыцька смэрт мне — спасэнье,*
*Без Грыцька мнэ свит — могыла!*

*Нэхай батьки лают, мучат,*
*Ны ским другим нэ сручуса,*
*Колы с ним мэнэ разлучат,*
*Я ў Прыпэци утоплюса!*

**Кручков.** Но! колы так крыпко его мылуеш, то вже нэчего раздумыват. Пановэ батьки! Трэба их случыты, а нэ то новое еще уголовное дило свалитца на ваши головы. Панэ Лыпски! чи прынымаеш ваше мэнэ за свата для свого сына?

**Липский.** Да вжеж, Найяснэйшая Корона! Затіялы дило, то и кончайтэ его с Богом, я рад буду благословыты.

**Кручков.** Дайтэ сюды ручнык. *(закидает его через плечо.)* Ну, вот я и сват! Що, пановэ Протосовицкіе, отдадытэ свою дочку за Грыцька?

**Тихон.** Такого свата трудно нэ уважыт. — ходы, жинка, — ходы, панэ Лыпски! — хрын тоби ў вочи! поблагословым дэтэй, а там пôтым сыграем вэсылье. На посаг дам два гарци карбованцыў и шляхецьку худобу, по смэрты же нашей самы всэ забэрут.

**Кулина.** Да и на выправу нэ поскупымса, вонаж у нас одно дэтыще, що маем, то всэ ее, щоб тюльку Бог даў им щастну долю. *(Сходятся родители и соединяют молодых руки.)*

**Кручков.** Вот так ладно! тэпэр, пановэ батьки, подпишитэ мировую и сложитэ мировых пошлин по 3-ы копэйки. *(те подписывают тремя крестами, а Писулькин за них расписывается.)*

**Ольпенский** *(в сторону)*. Нэ був бы судовы чоловик, — побрав карбованцы, да еще и по копэйки сэгае. У них вжэ така натура: без копэек и четвэртэй, як без соли у страву, нияк нэ обойдутца; копэйки да четвэрты — до скарбу, а карбованцы — соби.

**Кручков.** Дэсяцкій! *(тот входит.)* Прывэды сюда Куторгу! *(Десяцкий выходит.)* Ну щож! наливайтэ снова кубки, да выпьем за здоровье молодой четы.

**Все** *(поднимая в гору кубки)*. Здоровье молодых, дай Бог им вик с собою щастлыво прожыты!

## ЯВЛЕНИЕ ПОСЛЕДНЕЕ

Те же и **Куторга**

**Куторга.** Дякуй, дякуй, пановэ громада, — буду старатца ущаслывыт Марысю.

**Кручков.** Мовчи, стары хрын, нэ об тоби тут идэ дило! бэры кубок, да и выпы за здоровье молодых Грыцька Лыпского с Марысею, а подякуй Богу, що так ліогко отдылавса от Суда.

**Куторга.** Дак это нэ я — пан молоды? нэ за мое пылы здоровье?

**Кручков.** Покин, стары хрыч, думат об женыдбэ, а заматай собы на вус, щоб крыпко дэржат язык за зюбамы.

**Куторга.** Ой, Найяснэйшая Корона! буду соби часто браты на розум философскую прыповэст: на то Бог дав людям язык, щоб сумэли мовчат. *(Пьет из кубка.)*

**Кручков.** Дэсяцкій! *(тот входит.)* кони готовы?

**Десяцкий.** Запрэгают, Найяснэйшая Корона! *(уходит.)*

**Кручков.** Ну, пановэ шляхта-братья! Я вам родный, я вам брат! тож на прощаньи выпьем еще по кубку крупнику, заспэваем нашу родну пэсэнку, да и поскачем на заручинах. Панэ Куторга! у тэбэ еще нэ вэльми курыцца чупрына, ты вэды пункты, а мы поскачем прыпэваючи.

**Все.** Виват наш брат, Найяснэйшая Корона!

№ 8

**Хор**
*Ей чух — чумадра!* } bis
*Чумадрыха вэсэла!* } bis

**Куторга**
*Наши Пынски Окольщы —*
*Жыццiо хоть Цару, Царьщы,*
*Здоволь всэго — подывыса!*
*Еш, ты, — хоть разпыражыса!*

**Хор**
*Ей чух — чумадра! и проч[ее].*

**Куторга**
*Исть горылка, ломоть хлиба,*
*Вьюны, дый сушона рыба, —*
*Чого ж боли людям треба.*
*Тож Пынчуку даў Бог нэба!*

**Хор**
*Ей чух — чумадра! и проч[ее].*

**Куторга**
*Як сбэрэм добро до чиста,*
*Повэзем на торг до миста,*
*Тогды квартою червенцы,*
*Гарцом мэрым карбовенцы.*

**Хор**
*Ей чух — чумадра! и проч[ее].*

**Куторга**
*Дывчата наши — се лани!*
*Краснэйши, як ясны пани;*
*Зыркнэ котора — мостанэ!*
*Сырца с под жыбра достанэ!*

**Хор**
*Ей чух — чумадра!*
*Чумадрыха вэсэла!* (слышен колокольчик.)

*(Шляхта опьянелая шатается, разговор общый без связи, Куторга на переди сцены сидя роняет кубок и усыпает, Кручков берет на сторону Ольпенского и говорит ему:)*

**Кручков.** Вэдаеш, що на тэбэ казав Статкевич?

**Ольпенский.** А що такое?

**Кручков.** Вюн доказуе, що ты нэ шляхтыч.

**Ольпенский.** Що! вюн смэет мэнэ так крыўдит? вось яж ему докажу мое шляхэцьтво!

**Кручков.** Нэ пры мнэ! Як пойду, тогды с ным разправышса. *(Отходит и берет в сторону Статкевича.)* Знаеш ли? тэбэ Ольпенскій назвав Мужыком.

**Статкевич.** Вюн смев мэнэ поругат мужиком?! Мнэ сам пан Еры Кобылынски подпысав грамоту. Таж яж на шкурэ его выпышу мое шляхецьтво. *(бросается к Ольпенскому, и начинают драку.)*

**Липский.** Найяснэйшая Корона! Шляхта попыласа и завэла драку,— бойтэса Бога, разнымытэ их, а то и с вас штраф будэ слэдовать.

**Крючков** *(в глуби сцены).* Нэ ко мнэ, — нэ ко мнэ! бывайтэ здоровы! Нэхай у Суд подадут жалобу, тогды прыиду на слидство снова[2]. Бывайтэ здоровы! *(уходит с Писулькиным.)*

**Тихон.** Виват, Найяснэйшая Корона!

**Все** *(кроме дерущихся).* Виват, Найяснэйшая Корона!

*(Занавес опускается, оставя на переди сцены спящаго Куторгу; тот просыпается.)*

**Куторга.** Що! вже разышлыса? а там чутна и драка? добрэ прыповэст каже: Пынска шляхта як попьетца, то напэвно подэрецца. *(к публике.)* Да Вы вже, Найяснэйшые Пановэ, спать хочэтэ, — а що! — нэ правда? Тож:

**№ 9**

*Найяснэйшая Публика!*
*Прошу Тэбэ — нэ дывыса,*
*Тож се бэда нэ вэлыка,*
*Що мы крыху попылыса.*

*Нехайже щасна развязка*
*Пынской шляхтэ от Вас будэ.*
*Дайтэ браво, колы ласка,—*
*Да и с Богом, Добры Людэ!*

***Конец***

## АСОБЫ

**Кручкоў** — станавы прыстаў.
**Пісулькін** — яго пісарчук.
Ціхон **Пратасавіцкі**
**Куліна** — яго жонка
**Марыся** — іх дачка
**Іван Цюхай-Ліпскі**
**Грышка** — яго сын
Цімох **Альпенскі**
Базыль **Статкевіч**
Харытон **Куторга**
(Ціхон Пратасавіцкі … Харытон Куторга — пінская ваколічная шляхта.)
**Дзесяць іншых асоб.**
**Дзесяцкі.**

*Рэч адбываецца ў ваколіцы О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета. Сцэна паказвае шляхецкую ваколіцу. Гаспадарскія будынкі раздзелены садамі. З боку сцэны — хата заможнага гаспадара; пры ёй — лаўка.*

## З'ЯВА І

**Марыся** *(седзячы на лаўцы, прадзе і прыпявае)*

**№ 1**

*Цяжка жыці мне, дзяўчаці,*
*З міленькім ў разлуцы, —*
*Лае бацька, лае маці,*
*Што сэрцайка ў скуцы.*
*Годзі сядзець над прасніцай —*
*Я хачу быць маладзіцай!*
*Маці кажа: век малоды.*
*Ой, ты яшчэ мала!*
*А сама ўжо ў гэты годы*
*Бацьку пакахала.*
*Годзі сядзець над прасніцай —*
*Я хачу быць маладзіцай!*

Ой, так! Няхай ганіць бацька, няхай лае маці, а я люблю Грышку і любіць яго век буду. Ой, бедныя ж нашы галаванькі!.. Што гэта за дур напаў на бацькоў? П'яныя завяліся ды пабіліся з сабою за шляхецтва, а мы з Грышкам праз тое гаруем і ныем. Яго бацька падаў на майго ў суд скаргу, і сягоння прыедзе ў ваколіцу Найяснейшая Карона* на прасоку. У ім цэлае наша спасенне. Як прыедзе, дык мы з Грышкам паклонімся яму ў пояс ды будзем прасіць ды маліць, каб ён пагодзіў нашых бацькоў ды каб яны дазволілі нам пажаніцца. А ён такі сярдзіты, не дапускай ты Госпад! Як наставіць адзін вус угору, а другі ўніз ды крыкне: па найяснейшаму ўказу! — то бацькі спалохаюцца ды зладзяць нам вяселле... Ды што гэта зрабілася Грышку? *(Грышка пацІху паказваецца з-за дрэва, крадучыся да Марысі.)* Баюся, каб не паўставалі бацькі, — нельга было б пабачыцца з ім. *(Ўстае і, пахаджаючы па сцэне, працягвае.)* Ой, Грышка, Грышка! Ты штось цяпер зрабіўся вельмі лянівы. Табе, пэўна, сэрца цяпер так ужо не ные па мне... Як прыйдзе, дык пакажуся перад ім сярдзітаю і хоць будзе прасіць і маліць, каб пацалавала, дык не пацалую. Дальбог, што не пацалую!

## З'ЯВА II

### Грышка і Марыся

**Грышка.** Дык я ж і прасіць не буду, сам цябе пацалую. *(Цалуе яе.)*

**Марыся.** Ах, Грышка нядобры! Як ты спалохаў мяне, гневаюся не жартам!..

**Грышка.** Гневаешся? Няпраўда! А чаму ж ты на мяне так міленька пазіраеш?

**Марыся.** Так, са злосці!.. Нягодны, дзе ты забаўляўся? Гэта ж зараз прыйдуць бацькі, а мы так многа маем з табою перагаварыць.

**Грышка.** Выбачай, мілая Марыся, — чуць золак, я з'ездзіў ужо да места, кінуўся ў ногі асэсару і прасіў, каб ён узяў нас пад сваю апеку.

**Марыся.** Што яго прасіць з голымі рукамі? Трэба было завезці які гасцінчык.

**Грышка.** Дык я ж завёз яму двух зайцоў, тры пары цецерукоў ды кадобчык мёду. Ён усё прыняў ласкава і сказаў, што сёння ж прыедзе на разборку справы майго бацькі з тваім. Ой, наварылі бацькі сабе кашы, будзе што есці! Ён вельмі сярдзіты — як размаўляў дык адзін вус калом угору і стаў. Будзе вазня!

**Марыся.** Дай Бог, каб гэта каша нам зубоў не папрышчыла!

**Грышка.** Ён дакляраваў зрабіць нам вяселле. На Богу ды на ім — уся наша надзея.

---

*Даўней асэсараў, або засядацеляў, а потым станавых прыставаў дзеля таго, што першыя выбіраліся падчас шляхецкіх выбараў, а другія прызначаліся ўрадам, — пінская шляхта велічала Найяснейшай Каронай.

ДУЭТ
**№ 2**

*Паклаўшы надзеі на Бога,*
*Чаго ж гараваць?*
*Прысяглі любіць да гроба, —*
*Дык будзем жа ждаць.*
*Хоча няшчасная доля*
*Навек разлучыці, —*
*А Бог скажа: мая воля*
*Ім з сабою жыці!*
*Не памогуць злы языкі,*
*Ні бацькоў старожа, —*
*Ён жа такі Пан вялікі,*
*Што хоча, то зможа!*

## З'ЯВА III

Тыя самыя, Ціхон **Пратасавіцкі** і яго жонка **Куліна**

**Ціхон.** Хрэн табе ў вочы! Жонка, а жонка! Хадзі ды паўзірайся, як дачка твая з Грышкам Цюхайчыкам галубіцца!

**Куліна** *(за сцэнай).* Хто? Дачка? Бойся Бога, ды яна жяшчэ малая! *(Уваходзіць)*

**Ціхон.** Які чорт малая! Хрэн табе ў вочы, — хадзі палюбуйся!

**Марыся.** Якая ж я малая, калі мне на Спаса скончыцца семнаццаць год?!

**Куліна.** Маўчы ты, хітрая лісіца! Бачыш ты, як яна скора палічыла гады!

**Ціхон.** Ах ты, чортаў сыну! Хрэн табе ў вочы! Не годзе таго, што бацька да жывога мяне пакрыўдзіў, назваўшы не шляхцічам, дык яшчэ сынок дачку нам баламуціць.

**Грышка.** Ды я ж яе люблю і хачу з ёю жаніцца...

**Ціхон.** Ось я цябе так пажаню, як твайго бацьку! Жонка, а жонка! Дай мятлу! Хрэн табе ў вочы!

**Грышка.** Што хочаце, тое рабіце, а ўсё-такі Марыся будзе мая! *(Да Марысі.)* Бывай здарова! *(Выходзячы спатыкаецца з Куторгай і збівае таго з ног. Марыся ўцякае ў хату.)*

## З'ЯВА IV

Тыя ж і **Куторга**

**Куторга.** Ах ты, паганец! *(Устаючы.)* Татарын ты нехрышчоны! Вот збіў мяне, як шведаў Хадкевіч пад Кіргольмам. Пачакай жа, я ж табе не дарую гэтай штукі, — не цяпер, то ў чацвер. *(Вітаецца.)* Дзень добры, пане Прата-

савіцкі! Здарова, пані Пратасавіцкая! *(Цалуе яе ў руку.)* Відно, відно,— дзякуй Богу! Здаровы, як рыжкі баровы. А я к вам з вялікаю навінаю. Не ведаеце? Толькі што пан асэсар прыехаў. А такі сярдзіты, не дапускай Божа! Нібы ліхі татарын. Як толькі ўехаў у ваколіцу ды стаў каля Бэркі, дык зараз і закрычаў: дзесяцкіх, соцкіх! Сабраць усю шляхту да Ціхона Пратасавіцкага, ды каб Іван Цюхай-Ліпскі прыйшоў з сынам туды ж.

**Ціхон.** Хрэн яму ў вочы! Будзе бяда, будзе! Гэты сабака Ліпскі падаў на мяне ў суд скаргу, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну, абдзярэ, як ліпку!

**Куторга.** Вот дзіво — на тое ён і асэсар! Заўваж толькі — у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей! Ты ведаеш яго прыпавесць: чырвонае, белае — ўсё перадзелае.

### № 3

*Гдзе ўнадзіцца юрыста,*
*Вымеце хату дачыста.*
*Такіх дзіваў нагаворыць,*
*Так многа кручкоў натворыць,*
*Што, пачасаўшы каршэнь,*
*Ты рассупоніш кішэнь.*
*Не дасі? — Цябе замучыць.*
*Добра стара казка вучыць:*
*Дзярэ каза ў лесе лозу,*
*Воўк дзярэ ў лесе казу,*
*А ваўка — мужык Іван,*
*А Івана — ясны пан,*
*Пана ўжо дзярэ юрыста,*
*А юрысту?.. Д'яблаў трыста!!!*

**Ціхон.** Хрэн табе ў вочы! Добра табе прастарэкаваць, калі няма на шыі бяды. Ось скажы лепш, што рабіць? Пане Куторга! Ты ж такі пісьменны чалавек — можаш падаць разумную раду.

**Куторга.** А прымеце ж чэсна маіх сватоў да вашай Марысі?

**Куліна.** Бойся Бога, пане Куторга, — яна ж яшчэ маладзенькая! Гэта ж дзіця горкае!

**Ціхон.** Які чорт дзіця, калі з хлопцамі цалуецца!

**Куторга.** Дык чаго ж чакаць? Гэта, кажуць, кепскі тавар: мый ды чашы, потым спяшы, — заплаці каму, каб вывез з даму.

**Ціхон.** Добра, пане Куторга, — бяры сабе дачку, і пасаг дам, толькі зрабі ласку: выцягні з бяды.

**Куторга.** Як чорта з балота.

**Куліна.** Парадзь, пане Куторга, — ты ж такі чалавек бывалы і па судох цягаўся.

**Куторга.** Ну, я гатоў вам саслужыць дружбу, толькі, як ваша дачка захімерычыцца ды адцураецца ад мяне, дык што тады? Вы ж ведаеце прыпавесць: даганяючы не нацалавацца.

**Ціхон.** Ратуй, ратуй, пане Куторга! Марысю ты ладам утаманіш, — чалавек ты разумны. Як падпусціш ёй лёстачак, як падплывеш селезнем, дык яна і расплывецца.

**Куторга.** Дык ведаеце што, пане Пратасавіцкі? Як прыйдзе к вам асэсар, то стаўляйце мяне ў сведкі: хоць я і не бачыў, але буду сведчыць, што ён цябе біў, а ты толькі бараніўся. Не жаль для Марысі скрывіць душою. Толькі ж, пані Пратасавіцкая, прышліце сюды Марысю, каб я мог з ёю пагаварыць ды ўтаманіць дурную, бач, каб не цуралася разумнага чалавека.

**Куліна.** Памагайце толькі майму Ціхону, а ўжо Марыся будзе ваша: я ёй сама ладам напілую вушы... Пойдзем, Ціхон, прыгатуемся, каб па-гаспадарску прыняць Найяснейшую Карону. А ты, пане Куторга, пачакай — зараз прышлю Марысю. (*Выходзіць з Ціхонам.*)

## З'ЯВА V

**Куторга** адзін

**Куторга.** Ну, хвала Богу, бацькоў удалося атуманіць! Цяпер трэба пайсці ў галаву па розум, каб дзеўку амарочыць. Прынадны, бач, кавалачак. (*Цалуе пальцы, нібы смакуючы.*) Тварык — як сонейка яснае, шчочкі — як малінкі красныя, губкі — быццам каралі, а як засмяецца срэбным галасочкам ды вышчырыць зубкі — то, здаецца, бачыш два пэрловыя шнурочкі. Ды і пасаг за ёю гаспадарскі: адна ў бацькоў, а старыя грошы асмінаю мераць; у гумне поўна, у хаце дастатак, і абора багата. Добра гутарка кажа: калі абора цячэ — гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ — гаспадар з хаты ўцячэ. Ціханіха ж дзень у дзень блінамі гасцей прымае. Праўда, век не схожы: я ўжо шосты дзесятак дажываю, а яна — семнаццаты гадок. Будзе клопату нямала, — о-ей! Не раз пачашу патыліцу, — моладзь, як пчолы ў вуллі, будуць аблягаць маю хату; прыяцеляў копамі лічыць буду. Ды што ж рабіць? Не я першы, не я апошні, — дурных дзядоў нямала на Божым свеце. Каб сарваць такую прыгожую і багатую кветачку, не шкода і ў балоце пакачацца.

### № 4

*Хто на старасць парыскуе,*
*Той хоць часам бядуе.*
*А пры маладзенькай жонцы,*

*Пры рупліўай гаспадыньцы*
*Быць філосафам — то значыць:*
*Не бач, што не трэба бачыць.*

(Выцягвае над галавою пальцы, паказваючы рогі.)

*Вырастуць над галавой грушы,*
*Думай, што даўгія вушы.*
*Гуляе жонка па ночы, —*
*Ты мэрам спіш, зажмур і вочы.*
*Тады табе — жыццё небам:*
*Усялякім тваім патрэбам*
*Жонка рада дагадзіці;*
*Стане крэпка ця любіці.*
*Скажа: муж мой, хоць старэнькі,*
*Да разумны і міленькі!*

Так, так! У цяперашнім разумным веку хочаш спакойна жыць? Будзь філосафам: бачыш? — не бачыш! чуеш? — не чуеш! Ба, ба! Ды вось і Марыся ідзе сюды. Якая красачка! Гледзячы на яе, аж слінка па губах цячэ. Ану, Куторга, падпусці ёй лёстачкі.

## З'ЯВА VI

**Марыся** і **Куторга**

**Куторга** (*салодка пасміхаючыся, заляцаецца*). Дабрыдзень, панна Мар'яна!

**Марыся** (*сарамліва*). Дабрыдзень, пан Куторга!

**Куторга.** А як панна Мар'яна прыгожа выглядае, які свежы тварык, маўляў ружачка толькі што з пучка! З якой нецярпячкай я ждаў шчаслівага моманту, каб пацалаваць беленькую ручку панны. (*Падыходзіць з камічнай зграбнасцю і цалуе руку Марысі. Тая, адступіўшы назад, абцірае руку хвартушком.*) Панна Мар'яна! Вы не чуеце, вы не ведаеце, як вас крэпка люблю, як па вас ныю.

РАМАНС
**№ 5**

*Рвецца маё сэрца да красненькай розы.*
*Быццам пры колах атоса із лозы.*
*Па панне Мар'яне душа ўся сумуе.*
*Быццам бы зязюля жалосна кукуе.*

*Як не бачу панны, жыццё мне — магіла,*
*Галоўцы цяжэнька, уцякае сіла.*
*Ой, высах я, высах, як лапаць у печы!*
*Горка ж мая доля, хто мяне ўлечы?*
*Як цетраў ў лясочку жаласна балбоча,*
*Так маё сэрцайка да панны сакоча.*
*Ні верашчака, каўбасы дзялянка —*
*Нішто не смакуе без цябе, каханка.*
*Дам табе зэгар вялікі, як рэпа,*
*Няхай ён пры сэрцы крэпка тваім клепа*
*Ды напамінае, як цяжка я ною*
*І ні ўдзень, ні ўночы не маю спакою...*

**Марыся** *(перабіваючы).* А ведаеце, ад чаго гэта, пане Куторга? Ад старасці! Ды ты ўжо нямала пажыў — пара пра дзяўчат перастаць думаць, а маліцца Богу, каб даў збавенне.

**Куторга.** Стары, стары!!

ДУЭТ
**№ 6**

*Кажаш, што я ладам стары,*
*Але — відны, але — яры!*
*Буду крэпка ця любіці,*
*Век табе верай служыці.*
*Маладыя ж — часта няшчэры,*
*Не шукай у ём добрай веры:*
*Пры табе — табе клянецца,*
*А з другой — з цябе смяецца.*

**Марыся**

*Да што мне з мужа старога?!*
*Я хачу майго мілога,*
*Бо стары, заміж гуляці,*
*Будзе кашляць і стагнаці.*

**Марыся**

*Грышка мой — хлапец матарны,*
*Маладый, відны ды гарны.*
*Глянь! Душа к яму ірвецца*
*І сэрцайка мацней б'ецца!*

**Куторга**

*Але Грышка твой няшчэры,*
*Не шукай ў ём добрай веры!*
*Пры табе — табе клянецца,*
*А з другой — з цябе смяецца!*

*Падчас спеву ўваходзяць Станавы з пісарчуком і хаваюцца па баках, каб падслухаць іх размову.*

**Куторга.** Бач, сабака Грышка! Ён клешчам упіўся табе ў сэрца, ды нічога з таго не будзе. Бацька твой дакляраваў мне тваю руку за тое, што я буду сведкам супраць Цюхая-Ліпскага. Найяснейшая Карона прыехаў на прасоку па скарзе Цюхая, пададзенай у суд на твайго бацьку, што ён яго пабіў; і калі ты пойдзеш за мяне, дык я гатоў і душою пакрывіць, ды паказаць на дазнанні, што бацька твой не біў Цюхая. А калі маё не ў лад, то я з сваім назад. Заспрачайся толькі, дык я зараз буду сведкам супраць твайго бацькі. Уехаў твой родны ў нерат — ні ўзад ні ўперад. Папаўся юрысту ў кіпці — выссе ён яго, як вупыр непамысную дзяўчыну. А калі б яму і ўдалося перапрасіць Найяснейшую Карону, то не канец яшчэ бядзе. Ведаеш, што кажуць людзі? Чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе. Справа ў суд як пойдзе, дык так дапякуць юрысты, маўляў баравіка на вуголлях,— адцураецца і сваіх!

**Марыся.** Дарма ты мяне палохаеш! Мы з Грышкам паклонімся ў пояс Найяснейшай Кароне, дык ён пагодзіць нашых бацькоў, а табе за крывое паказанне дасць добрую гонку.

**Куторга.** Што?! Ты думаеш, я баюся асэсара? Да я такой задам яму пары, што ён не згадае, дзе ўюны зімуюць. Я чалавек бывалы, маю розум і патраплю ладам яго вывесці ў поле, як зайчыка пад хартоў.

## З'ЯВА VII

Тыя самыя, **Кручкоў** і **Пісулькін**

*Кручкоў падыходзіць ціха да Куторгі і б'е яго па плячы; Пісулькін жа з камічнаю ўхваткаю падыходзіць да Марысі, якая сарамліва і баючыся кланяецца.*

**Кручкоў.** Дык ты мяне думаеш вывесці ў поле? Хочаш навучыць, дзе ўюны зімуюць? Пачакай жа, галубчык! Я ж цябе навучу, куды няправых сведкаў садзяць! Гэй, дзесяцкі!

**Куторга** (*зляканы*). Ваша благароднае сіяцельства! Найяснейшая Карона! Да я ж толькі сабе жартаваў — вот страшыў дурное дзяўчатка, каб яна прызволіла пайсці за мяне замуж. Бацькі багаслаўляюць, а яна казырыцца — дык я вось так здуру сказаў ёй.

**Кручкоў.** Здуру хочаш крыва прысягнуць? А знаеш, чым гэта пахне? Па ўказу всеміласцівейшага цара Пятра Вялікага 1779 года, аўгуста 10-га і па Статуту Літоўскаму раздзела 3-га, параграфа 375-га гэта ўгалоўнае прэступленне, Сібірам пахне. Сібір, Сібір, галубчык! Гэй, дзесяцкі! *(Той ўваходзіць.)* Пасадзі гэтага молодца ў асобую святліцу ды глядзі, каб ён не бачыўся ні з кім, а барані Божа, з гаспадаром не змовіўся.

**Куторга** (*выходзячы з дзесяцкім).* Найяснейшая Карона! Бойцеся Бога, не губіце беднага чалавека! Мала што язык малоў. Добра прыказка кажа: млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. Выбачайце майму дуру!

**Кручкоў.** Якому дуру? Ты ж чалавек бывалы і нядаўна хваліўся сваім розумам.

**Куторга** (*з бакавых дзвярэй).* Які тут у чорта розум, калі так неасцярожна трапіў у бяду, вось швед пад Палтавай! *(Выходзіць з дзесяцкім.)*

## З'ЯВА VIII

Тыя самыя, апрача Куторгі

**Кручкоў.** Ну, пане Пісулькін, пакінь, Вашэць, заляцанкі, і бярыся за дзела. Тут, брат, нам прыгожае жніво!.. Гэй, дзесяцкі! *(Той уваходзіць.)* Пастаў тут пасярэдзіне стол ды накрый яго судовым сукном. *(Дзесяцкі выконвае загад.)* Харошая пагода, можна і на дварэ папрацаваць. Садзіся, пане Пісулькін, ды прыбяры бумагі. *(Пісулькін важна садзіцца, адкаркоўвае атрамантніцу, парадчыць паперы, з якіх некалькі падае Станавому, каторы садзіцца таксама пры стале, задам да Пісулькіна, а потым звяртаецца да Марысі.)* Ну, Марыся, хадзі сюда, бліжэй, ды кажы мне шчырую праўду, — ты ж бачыш, што ў мяне вусы не натапыраны, дык я і не сярдзіты. Кажы: любіш ты Грышку Ліпскага?

**Марыся** *(сарамеючыся і перабіраючы хвартушок).* Ну, дык што?..

**Кручкоў.** За што ж ты яго палюбіла?

**Марыся.** Сама не ведаю — вось так штось прыпаў к сэрцу. Ды як жа яго не любіць, калі ён малады, прыгожы хлопец, а сэрца ў яго залатое.

**Кручкоў.** Дык хош за яго выйсці замуж?

**Марыся** *(з сарамлівасцю).* Але, хочу... калі за яго не пайду, то ўжо век мне, беднай, гараваці дзеўкай. Найяснейшая Карона! Злітуйцеся над намі ды зладзьце наша шчасце! *(Кланяецца яму.)*

**Кручкоў.** Чаго ж ты хочаш ад мяне?

**Марыся.** Найяснейшая Карона! Скончце справу няшчасную між нашымі бацькамі не па судоваму, а па хрысціянскаму звычаю: палагодзьце іх з сабою — няхай больш не індычацца, ды прымусьце, каб яны нас з Грышкам злучылі. Найяснейшая Карона! *(Кланяецца яшчэ ніжэй і жаласліва кажа далей.)* Ты ж такі, хоць чалавек судовы, чыноўны, ды, пэўна, верыш у Бога, — дык дзеля ласкі Божай сатвары ты і нам ласку, зладзь нашае шчасце, а мы век будзем за цябе, тваіх дзетак і ўнучкаў Бога прасіць.

**Кручкоў.** Но, но, мілая, будзь спакойна! Я хоць чалавек, як кажаш, судовы, але ўсё зраблю па-хрысціянску ды яшчэ на тваім вяселлі паскачу... Гэй, дзесяцкі! *(Той уваходзіць.)* А чы сабралася шляхта з ваколіцы?

**Дзесяцкі.** Усе сабраліся, хто з курыцаю, хто з лубкаю мёду, а хто з сушонаю рыбай. Чакаюць, што ваша міласць ім загадае.

**Кручкоў.** Добра! Няхай усё аддадуць хурману, ды спакуйце там харашэнька на возе... Ты пакліч сюды Ціхона Пратасавіцкага з кабетаю. А Цюхай-Ліпскі з сынам ёсць?

**Дзесяцкі.** Цюхай, апроч мёду і рыбы, прыцяг дзесяць вянкоў сушаных баравікоў, а сын яго — капу ражынкаў-уюноў.

**Кручкоў.** Добра, добра! Усё ўпакаваць асцярожна! Ды кліч усіх сюды!

*(Дзесяцкі выходзіць. Кручкоў строіць фурыёзную фізіяномію: адзін вус ставіць угору, другі ўніз. З глыбіні сцэны выходзіць шляхта, баючыся, кланяецца нізка і хаваючыся адзін за другога. З бакавых дзвярэй выходзіць Ціхон Пратасавіцкі з жонкаю. Марыся сыходзіцца ў глыбіні сцэны з Грышкам і ціха шэпчуцца паміж сабою.)*

## З'ЯВА IX

Тыя самыя і Ціхон **Пратасавіцкі**, яго жонка, **Цюхай-Ліпскі**, яго сын **Грышка**, Цімох **Альпенскі**, Базыль **Статкевіч** і іншая шляхта

**Ціхон.** Жонка, а жонка! Будзе бяда! Паглядзі, як у Найяснейшай Кароны вус адзін уніз, а другі ўгору задраўся. Ідзі ты наперад ды пакланіся яму, хрэн яму ў вочы.

**Куліна.** Што ты мяне пасылаеш? Ты сам наварыў піва, сам і папівай здароў, я баюся.

**Ціхон.** Ты — кабета, хрэн табе ў вочы, — ён жа цябе не з'есць! Вазьмі гэтыя грошы, — тут іх пяць дзесяткаў, — пакланіся ў ногі ды палажы на стол; ён жа юрыста, не адцураецца грошай, — тагды і дзела пойдзе, як па салу.

**Куліна.** Ну, што рабіць, — папытаю. *(Яна боязна падыходзіць, кладзе грошы на стол, пасля кланяецца Станавому нізка.)* Найяснейшая Карона...

**Кручкоў.** Тише! *(Куліна са страху адыходзіць ад стала ды хаваецца за мужа; Кручкоў, трымаючы паперу, устае ды, не пазіраючы на шляхту, гаворыць.)* По указу Пинского земского суда от 23 мая сего года за № 2312 прибыл я в околицу для расследования уголовного дела о побоях, нанесенных Тихоном Протосовицким Ивану Тюхаю-Липскому... Ліпскі, маеш сведкаў?

**Ліпскі.** Маю, Найяснейшая Карона.

**Кручкоў.** Пусть выступят вперед! *(Трое шляхтаў выходзяць наперад.)* Пратасавіцкі, за што ты яго біў?

**Ціхон.** Дык ён жа назваў мяне мужыком, — хрэн яму ў вочы!

**Кручкоў.** Маеш сведкаў?

**Ціхон.** Маю, Куторгу.

**Кручкоў.** Яго няможна ставіць — ён пад судом. *(Абярнуўшыся да сведкаў Ліпскага.)* Вы бачылі, як Пратасавіцкі біў Ліпскага?

**Тры сведкі** *(боязна кланяючыся)*. Бачылі, Найяснейшая Карона!

**Кручкоў** *(абярнуўшыся да іншай шляхты).* А вы бачылі?

**Усе іншыя.** Не, не бачылі, Найяснейшая Карона!

**Кручкоў.** Ну, дык добра! Следство кончано, цяпер будзе суд, а наўперад: по указу всемилостивейшей государыни Елисаветы Петровны 49-го апреля 1895 года и всемилостивейшей Екатерины Великой от 23-го сентября 1903 года, а равномерно в смысле Статута Литовского раздела 8-го, параграфа 193-го, коим назначается в пользу суда от тяжущихся гривны. Обжалованный Протосавицкий имеет зараз же уплотить пошлин 20, прогонных 16 и на канцелярию 10 рублев. Жалующийся Липский в половине того, сведкі, каторыя бачылі драку, а не баранілі, — по 9-ці рублев, а вся прочая шляхта, што не бачыла дракі, за тое, што не бачыла,— па 3-ры рублі. Плаціце! *(Садзіцца на месца ды піша.)*

*Шляхта шэпчацца паміж сабою, пасля выбраны ўсімі зборшчык Цімох Альпенскі падыходзіць да Пратасавіцкага, Ліпскага і іншае шляхты, збірае грошы і, склаўшы іх у адзін мяшок, падносіць, баючыся, да Станавога ды кладзе на стол.*

**Ціхон** *(адлічыўшы зборшчыку грошы, калі той пайшоў збіраць ад другіх).* Э... глядзі ты! Як ён на бяду нашу ўсе ўказы і законы як рэпу грызе і не заікнецца, — хрэн яму ў вочы!

**Куліна.** Чаго тут дзівіцца? Відаць, судовы чалавек, дык ён на тым і зубы згрыз, — такая, бач, парода.

**Кручкоў** *(як Альпенскі паклаў на стол грошы).* А ўсё?

**Альпенскі.** Да капеечкі, Найяснейшая Карона!

**Кручкоў.** Ладна, ідзі! Зараз будзе дэкрэт.

**Ціхон.** Ух, Госпадзі! Што гэта будзе, — хрэн яму ў вочы?!

**Куліна.** А што будзе? Вядома, юрыста, — абдзярэ ўсіх дачыста дый паедзе з Богам да хаты.

**Ціхон.** Хрэн табе ў вочы! Каб прынаймні скура была цэла, а то як дабярэцца да яе, будзе нячысты інтэрас.

**Кручкоў** *(падымаецца і выходзіць з папераю пасярод сцэны).* Слухайце з увагаю!.. *(Усе кланяюцца.)* Буду чытаць дэкрэт. *(Зноў кланяюцца.)* По указу его императорского величества, во временном присутствии, в комплекте, составленном из участкового заседателя и его письмоводителя, слушали дело, коего обстоятельства следующие: Иван Тюхай-Липский назвал Тихона Протосавицкого мужиком; тот за такую обиду побил Липского, на что сей последний представил и свидетелей. Расследовав таковое дело, временное присутствие, сообразно указу всемилостивейшего государя Петра Великого в 1988 г. марта 69-го дня последовавшего и применяясь к Статуту Литовскому раздела 5-го параграфа 18-го, — определило:

а) Тихону Протосавицкому, как уголовному преступнику, назначается: 1) 25 лоз на голой земле без дывана* и 2) штрафа 25 руб. в пользу временного присутствия;

---

**Без дывана — без посцілкі. У даўнейшыя часы, калі каралі шляхціча, паклаўшы яго на голай зямлі, не падсцяліўшы кілім, — лічылася вялікай абразаю.*

б) Ивану Тюхаю-Липскому как нанесшему личное оскорбление Протосавицкому, назначается: 1) 15 лоз на дыване и 2) 15 руб. штрафа в пользу временного присутствия;

в) свидетели, которые видели драку и не разняли дерущихся, — 1) по 10 лоз на дыване и по 10 руб. штрафа в пользу временного присутствия;

д) всей прочей шляхте, которая не видела, а тем самым не могла и разнять дерущихся, назначается: 1) по пять лоз на дыване и 2) по пять руб. штрафа в пользу того же присутствия. Напоследок:

г) применяясь к указу ея величества Анны Иоанновны 1764 г. октября 45-го числа за негербовую бумагу, употребленную и имеющуюся употребиться по сему делу, — Протосавицкий 5, Липский 3, свидетели по 2, а все прочие по рублю уплатят... Кончено! Цяпер зборшчык няхай збірае грошы, пасля жа прымемся за лазу. *(Падыходзіць да стала і ўглыбляецца ў паперы.)*

**Ціхон.** У... у... у... бацькі мае родныя! Хрэн яму ў вочы! 25 лоз ды яшчэ не на дыване, а на голай зямлі! Даў бы сто рублёў, каб дыван падаслалі.

*Кручкоў сядае за стол і нібыта паглыбляецца ў чытанне папераў; зборшчык збірае грошы, пачынаючы ад Пратасавіцкага, які, скончыўшы выплату, падкрадваецца да Пісулькіна, адклікае таго ўбок і совае 25-рублёвую паперку.*

Дабрадзею, ратуй няшчаснага ды навучы, як ад лазы збавіцца!

**Пісулькін** *(ўбок, разглядаючы бумажку)*. Хорошо быць пісьмевадзіцелем у разумнага чалавека. Маляваныя госцікі *(паказваючы на паперку)* самі ў карман лезуць, не нада і рук выцягіваць. *(Да Ціхона.)* Не ведаю, што рабіць! Ён сам баіцца, каб, зрабіўшы вам паслугу, перад судом не адказываць. Але папробуйце. *(Тут падыходзяць другія шляхты і слухаюць яго рады.)*

Злажыце яму добры гасцінчык, авось паквапіцца? Пагаварыце з сабою і злажыце, а я тым часам папрабую ўгаманіць яго. *(Падыходзіць да Кручкова і шэпча, той злосна адказвае.)*

**Кручкоў.** Не магу, не магу! Знаеш, по всемилостивейшему указу нашего государя 1884 года, сентября 75-го дня какой великий адказ за поблажку сторонам в уголовном преступлении? Не толькі пасаду магу страціць, но и личность подвергнется опасности.

**Ціхон.** Жонка, а жонка — хрэн табе ў вочы! Прынясі шкураны мяшок, што ляжыць у кубле з грэчкаю; там ёсць сто рублёў, трэба выкупіць шкуру. Ох, даражэй яна каштаваць будзе — хрэн ёй у вочы!

**Куліна.** Што? Нацярушыў бяды, а цяпер расплачвайся. *(Выходзіць ды праз хвілю вяртаецца з мяшком.)*

**Грышка** *(да бацькі)*. Ану, бацька, рассупонь свой мяшок ды вынь якіх рублёў з 50 — можа, і тваю пашануюць шкуру. *(Да іншае шляхты.)* І вы разварушыцеся: каторыя бачылі драку — па дзесяць, а каторыя не бачылі — па пяць рублёў,— злажыце ў купу, паднясём Найяснейшай Кароне. Дык ён зжаліцца над вамі і дзело кончыць: вось як яны, людзі судовыя, умеюць: і воўк будзе сыты, і козы цэлы.

*Шляхта збірае грошы, пасля, складзеныя ў адзін мяшок, аддаюць Грышку, падпіхаючы яго да Станавога і ўгаварваючы, каб ён адважыўся аддаць іх Кручкову і прасіць даравацъ ім.*

**Ліпскі.** Ідзі ты, сынку, — пакладзі гасцінчык на стол ды прасі і малі, каб ён памілаваў нашу шкуру ды і скасаваў строгі свой дэкрэт.

**Грышка.** Бачыце, бацька, як нядобра, што вы зводзіцеся з суседамі. Добра, я адважуся пайсці, толькі каб вы пагадзіліся з Ціхонам ды каб паслалі ад мяне сватоў к яго дачцэ Марысі.

**Ліпскі.** Д'ябал яго бяры! Няхай толькі ўладзіцца дзела, а я не адмоўлюся. Ідзі прасі!

*Грышка з аднаго, а Пратасавіцкі з другога боку баязліва падыходзяць да стала, пры каторым Кручкоў нібыта ўглыблены ў чытанне папераў, ды кладуць торбы з грашыма; Грышка, моцна кашлянуўшы, кланяецца нізка Станавому ды кажа.*

**Грышка.** Найяснейшая Карона! Мы — ад веку пінская шляхта, і ты — шляхціч. Не глумі ж, не пэцкай у балоце шляхецкай, братняе табе, крыві! Скасуй строгі твой дэкрэт, на сорам нашай ваколіцы пісаны, — паміры майго бацьку з Ціхонам, сатвары маё і Марысі шчасце, а мы ўсе, цэлаю ваколіцай, век за цябе будзем Бога прасіць і век табе дзякаваць!

**Пісулькін.** І я вас прашу, ваша благародзіе, — пусть подадут мировую и концы в воду!

**Кручкоў** *(да Пісулькіна, але галасна).* Хорошо! Для вас это сделаю, приму грех и ответ на себя...Ціхон Пратасавіцкі і Цюхай-Ліпскі! Падыдзіце сюды бліжэй. *(Тыя падыходзяць, за імі Грышка і Марыся.)* Абнміцеся і пацалуйцеся на згоду — ну, што ж? *(Марыся свайго бацьку, а Грышка свайго папіхаюць, якія потым абдымаюцца і цалуюцца з сабою.)*

**Ціхон!** На згоду каб быў крупнік!*

**Ціхон.** Гатовы, Найяснейшая Карона! Схадзіце, жонка і Марыся, ды прынясіце, — хрэн вам у вочы. *(Куліна і Марыся ідуць у хату.)*

**Кручкоў.** Вы думаеце, што мне міла паняверыць кроў шляхецкую? Я ж сам шляхціч, вам родны, але што ж рабіць? Служба — не дружба. Законы, міленькія, законы! Годзячы вас, бяду на сябе бяру: толькі пад такой кандыцыяй, каб Ціхон з Ліпскім навек з сабой паміріліся ды каб я з-за вас не ўлез у нерат. Канечне трэбую, каб тут жа пры мне дзетак сваіх заручылі, а там і павянчалі.

*(Тут Куліна і Марыся ўносяць дзве місы гарачага крупніку ды ставяць на стол з кубкамі.)*

Ну, што, Ціхон, — аддасі за Грышку сваю Марысю?

**Куліна** *(ставячы).* Гарачае, ой гарачае, Найяснейшая Карона!

**Кручкоў.** Адкуль жа ты ведаеш?

---

** Крупнікам завецца пітво, прыгатаванае на агні з гарэлкі і патакі з рознымі прыправамі*

**Куліна.** Дык я ж сама яе зладзіла...

**Кручкоў.** Што?

**Куліна.** Да гарэлку. Толькі што перагрэла, шафрану і розных прыпраў насыпала многа, мёду ж цэлы кадобчык укінула.

**Кручкоў.** А... ты талкуеш аб крупніку!

**Ціхон.** Хрэн табе ў вочы! Чуеш, што Найяснейшая Карона кажа?

**Куліна.** А як жа, аб прыправе...

**Ціхон.** Аб якой прыправе? Хрэн табе ў вочы — аб Марысі! Ці аддасі яе за Грышку Ліпскага...

**Куліна.** А што будзе з Куторгаю?

**Ціхон.** Хрэн яму ў вочы! Твой Куторга толькі хваліцца ўмее, а як прыйшло да дзела, дык чуць у бяду з сабою разам і мяне не ўцяг.

**Кручкоў.** Вось я тут зараз цэлую справу кончу. Налівайце кубкі!

*(Куліна з Ціхонам наліваюць, падаюць Кручкову і Пісулькіну і ўсім іншым.)*

Грышка, любіш ты Марысю? Хочаш з ёю да шлюбу?

**Грышка.** Ой, хачу, вельмі хачу! Найяснейшая Карона! Бог мяне пакарай, калі я не дам ёй шчасця, адружыўшыся.

**Кручкоў.** А ты, Марыся, любіш Грышку? Хочаш з ім векдзяліць шчасце і гора? *(Марыся, засароміўшыся, паварочваецца тварам да сцяны ды дзёртае яе пальцам.)* Ну, што? Чаго маўчыш?

**Марыся.** А ўжо ж, калі маўчу...

**Кручкоў.** Дык — хачу? Ладна! Любіш ты Грышку?

**Марыся** *(сарамліва).* Але...

**Кручкоў.** Крэпка яго любіш?

РАМАНС
№ 7

**Марыся.**

*Найяснейшая Карона!*
*Трудна мне без Грышкі жыці.*
*Ніяка земска прэпона*
*Не ў сілах нас разлучыці!*
*Сэрца маё — яго менне.*
*Яго любоў — мая сіла.*
*Без яго мне смерць — спасенне.*
*Без яго мне свет — магіла.*
*Няхай бацькі лаюць, мучаць.*
*Ні з кім другім не зручуся.*
*Калі з ім мяне разлучаць.*
*Я у Прыпяці ўтаплюся!*

**Кручкоў.** Ну, калі так крэпка яго мілуеш, дык ужо няма чаго раздумываць. Панове бацькі! Трэба іх злучыць, а то новае ўгалоўнае дзела зваліцца на вашы галавы. Пане Ліпскі! Чы прымаеш, Вашэць, мяне за свата для свайго сына?

**Ліпскі.** Ды ўжо ж, Найяснейшая Карона! Задумалі дзело, то і канчайце яго з Богам, — я рад буду блаславіць.

**Кручкоў.** Дайце сюды ручнік! *(Падаюць, а ён закідае яго сабе на плячо.)* Ну, вот я і сват! Што, панове Пратасавіцкія, — аддаеце вашу дачку за Грышку?

**Ціхон.** Такога свата трудна не ўважыць. Хадзі, жонка, хадзі, пане Ліпскі, — хрэн табе ў вочы! Паблаславім дзяцей, а там потым адгуляем вяселле. На пасаг дам два гарцы грошай і шляхецкую худобу, а па смерці ж нашай — самі ўсё забяруць.

**Куліна.** Ды і на выправу не пашкадуем — яна ж у нас ядыначка: што маем, тое ўсё яе, каб толькі Бог даў ім шчасную долю.

*(Бацькі сходзяцца і злучаюць маладым рукі.)*

**Кручкоў.** Вот так добра! Цяпер, панове бацькі, падпішыце міравую і злажыце міравых пошлін па тры капейкі.

*(Тыя падпісваюцца трыма крыжыкамі, Пісулькін за іх распісваецца.)*

**Альпенскі** *(ўбок)*. Не быў бы судовы чалавек! Пабраў рублі ды яшчэ па капейкі сягае. У іх ужо такая натура: без капеек і чвэрцяў, як без солі ў страву, ніяк не абойдуцца; капейкі і чвэрці — да скарбу, а рублі — сабе.

**Кручкоў.** Дзесяцкі! *(Той уваходзіць.)* Прывядзі сюды Куторгу! *(Дзесяцкі выходзіць.)* Ну, што ж, — налівайце зноў кубкі ды вып'ем за здароўе маладой пары.

**Усе** *(падымаючы ўгору кубкі)*. Будзьце здаровы, маладыя! Дай Бог вам век з сабою шчасліва пражываць!

## З'ЯВА АПОШНЯЯ

Тыя самыя і **Куторга**

**Куторга** *(кланяецца ўсім)*. Дзякуй, дзякуй, панове грамада! Буду старацца ўшчасліваць Марысю.

**Кручкоў.** Маўчы, стары хрэн, не аб табе тут ідзе дзела! Бяры кубак ды выпі за здароўе маладых Грышкі Ліпскага з Марысяю і падзякуй Богу, што так лёгка вырабіўся ад суда.

**Куторга.** Дык гэта не я малады? Не за маё пілі здароўе?

**Кручкоў.** Пакінь, стары хрыч, думаць аб жаніцьбе, а заматай сабе на вус, каб крэпка дзяржаў язык за зубамі.

**Куторга.** Ой, Найяснейшая Карона! Буду сабе часта браць на розум філасофскую прыпавесць: на тое Бог даў людзям язык, каб умець маўчаць. *(П'е з кубка.)*

**Кручкоў.** Дзесяцкі! *(Той уваходзіць.)* Коні гатовы?

**Дзесяцкі.** Запрагаюць, Найяснейшая Карона! *(Выходзіць.)*

**Кручкоў.** Ну, панове шляхта-брацця! Я вам родны, я вам брат, дык на прашчанне вып'ем яшчэ па кубку крупніку, заспяваем нашу родную песню

ды паскачам на заручынах. Пане Куторга, у цябе яшчэ не вельмі курыцца чупрына, — ты вядзі пункты, а мы пакруцімся, прыпяваючы.

**Усе.** Віват наш брат, Найяснейшая Карона!

**№ 8**

**Хор**
*Эй, чух чумадра,*
*Чумадрыха весяла!* } bis

**Куторга**
*Нашы Пінскі акаліцы —*
*Жыццё хоць цару, царыцы!*
*Ўсяго досыць — прызірніся:*
*Еш, пі, хоць распаражыся.*

**Хор**
*Эй, чух чумадра,*
*Чумадрыха весяла!*

**Куторга**
*Ёсць гарэлка, луста хлеба,*
*Уюны й сушона рыба.*
*Чаго ж болей людзям трэба?*
*Пінчуку тут даў Бог неба!*

**Хор**
*Эй, чух чумадра,*
*Чумадрыха весяла!*

**Куторга**
*Як збяром дабро дачыста,*
*Завязём на торг да места,*
*Тагды картаю чырвонцы,*
*Гарцам мерым карбавонцы.*

**Хор**
*Эй, чух чумадра,*
*Чумадрыха весяла!*

**Куторга**
*Дзяўчаты нашы, як лані,*
*Харашэйшы, як ясны пані.*
*Зіркне катора — маспане! —*
*Сэрца з-пад жыбра дастане.*

**Хор**
*Эй, чух-чумадра. -*
*Чумадрыха весяла!*

*(Чуваць звонікі. Шляхта, ап'янелая, хістаецца па сцэне без парадку; гутарка агульная без сэнсу; Куторга пасярод сцэны ўпускае кубак і засынае.)*

**Кручкоў** (*бярэ ўбок Альпенскага і кажа яму*). Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч?

**Альпенскі.** А што?

**Кручкоў.** Ён казаў, што ты не шляхціч.

**Альпенскі.** Што? Ён мяне так зневажае? Вось я ж яму дакажу маё шляхецтва!

**Кручкоў.** Не пры мне, — як паеду, тагды з ім расправішся! *(Адыходзіцца, бярэ ўбок Статкевіча.)* Знаеш? Цябе Альпенскі аблаяў мужыком.

**Статкевіч.** Ён смеў назваць мяне мужыком?! Мне сам Юры Кабылінскі паднісаў грамату — дык я ж на шкуры яго выпішу сваё шляхецтва! *(Шугаецца да Альпенскага, і пачынаюць біцца.)*

**Ліпскі.** Найяснейшая Карона! Шляхта папілася і завялася біцца. Бойцеся Бога, раздыміце, а то і з вас штраф будзе належыць!

**Кручкоў.** Не ка мне, не ка мне, — няхай у суд падаюць, тады прыеду на следства! Бывайце здаровы! *(Выходзяць з Пісулькіным.)*

**Ціхон.** Віват, Найяснейшая Карона!!

**Усе** *(апрача тых, што б'юцца).* Віват, Найяснейшая Карона!!

*(Заслона апускаецца, пакідаючы наперадзе сцэны Куторгу; той прачынаецца.)*

**Куторга.** Што? Ужо разышліся? А там чутна і бойка! Добра прыпавесць кажа: пінска шляхта як нап'ецца, то напэўна падзярэцца. *(Да публікі.)* Ды вы ўжо, найяснейшыя панове, спаць хочаце? А што? Няпраўда? Дык:

**№ 9**

*Найяснейшая Публіка!*
*Прашу Цябе, не дзівіся,*
*Бяда гэта невялікая,*
*Што мы крыху напіліся.*

*Няхай шчасная развязка*
*Пінскай шляхце ад вас будзе. —*
*Дайце брава, калі ласка,*
*Ды і з Богам, добры людзі!*

***Канец***

# Pinsk gentry

*A Musical Farce in One Act*

*Translated from Belarusian*
*by* ***Vera Rich*** *and* ***Dominik Yanushkevich***



## DRAMATIS PERSONAE

**Kručkou** — a law official,
properly called the Assessor,
but often referred to (incorrectly) as the Crowner.
Pisulkin — **his clerk.**
Cichon Pratasavicki.
Kulina — **his wife.**
Marysia — **their daughter.**
Ivan Ciuhaj-Lipski.
Hryška — **his son.**
Cimoch Alpenski.
Bazyl Statkevič.
Charyton Kutorha.
**Others.**
**Beadle**

*The action takes place in the neighbourhood of O... a remote area in the Pinsk marshes. The back-drops shows farm buildings set among orchards. On one side of the stage there is the house of a prosperous householder. There is a bench nearby.*

### SCENE I

**Marysia** *(sitting on the bench, spinning and singing to herself):*

**№ 1**

*Ah how dreary my life's dragging,*
*From my dear love parted,*
*Father scolding, mother nagging —*
*I pine heavy-hearted.*
*Spinning here must I abide,*
*Though I long to be a bride!*

*I am far too young, says mother,*
*And I still must tarry.*
*But her own years were no other,*
*When Pa she did marry!*
*Spinster still I must abide,*
*Though I long to be a bride!*

Well, so be it! Father can wallop me or mother rip me apart, but I love Hryška and will love him forever. Oh, how unlucky we are! Why were our fathers so stupid? They took a drop too many, and started fighting over whether they were gentry-born or not — and so now Hryška and I have to suffer for it. His father is suing my father, and today His Honour the Crowner is coming to hear the case. Well, he's our only hope. When he comes, Hryška and I will go and plead with him to reconcile our parents so that they'll let us get married. And he's really got a temper, Lord help us! So if he turns one side of his moustache up and the other down and starts yelling: «By the order of His Honour», then surely our fathers will take fright and start wedding preparations on the spot!... But what has become of Hryška? *(Hryška slowly appears from behind a tree, sneaking up on her).* I'm scared our parents will turn up — and that will put paid to our meeting. *(Stands up, and walks around the stage).* Hryška, Hryška, you've grown very lazy recently. Your heart doesn't seem to care about me like it used to... Well, when he comes, I'll throw a sulk, and however much he begs me for a kiss, I won't give him one! Lord help me, but I won't!

## SCENE II

**Hryška** and **Marysia**

**Hryška:** Well, then, I won't ask, I'll just take it!*(Kisses her).*

**Marysia:** Oh, Hryška, that's not nice! You really scared me!... I'm angry — and no joke!

**Hryška:** Are you? Really? Then why are you looking at me so sweetly?

**Marysia:** That's *because* I'm angry! You naughty boy, where have you been? The parents will be here soon and there's so much we must talk about!

**Hryška:** Forgive me, Marysia darling. At first light I went into town and saw the Assessor and asked him to take care of us.

**Marysia:** You asked him empty-handed? You should have taken him a sweetener!

**Hryška:** Well, I've brought him a couple of hares, three brace of black grouse and a keg of honey. He accepted it all very graciously and said he is coming today to hear our fathers' case. Well, our fathers have cooked their porridge — so now they must eat it! The Assessor was in a temper, because one side of his moustaches stood straight up like a fence-post. So we can expect a rumpus!

**Marysia:** Let's hope that the porridge they cooked won't choke us too!

**Hryška:** He testified that he would get us married. Well, now we just have to trust in him and in God!

**№ 2**

DUET

*Our cause to God's hands commending,*
*Why should we fear fate now?*
*We have vowed a love unending,*
*We need but to wait now.*

*Evil fate plans ending painful,*
*Parting us forever;*
*But God says: My will's this twain shall*
*Wedded be together.*

*Tongues malicious cannot blight us*
*Nor our parents' railing. —*
*For the will of the Almighty*
*Ever is prevailing.*

## SCENE III

The same plus Cichon **Pratasavicki** and his wife **Kulina.**

**Cichon.** Horseradish sting your eyes! Wife, hey, wife! Come here and see how that daughter of yours is flirting with Hryška.

**Kulina** *(offstage).* Who? Daughter? For God's sake, she is too young! *(Enters).*

**Cichon.** Devil too young she is? Horse-radish sting your eyes! Come and see for yourself!

**Marysia:** Why am I too young when I'll be seventeen come Saviourmas?

**Kulina:** Hold your tongue, you vixen! You see how quickly she's worked out her age!

**Cichon:** As for you, son of a devil! Horse-radish sting your eyes! First the father insults me saying I'm not gentry-born, and now this son of his is messing around with our daughter.

**Hryška:** But I love her and want to marry her...

**Cichon:** Over my dead body! I'll serve you the same as I'll serve your father! Wife, hey, wife, give me a broom!

**Hryška:** Do as you like you but Marysia *will* be mine! *(To Marysia).* Good-bye for now! *(While going out bumps into Kutorha and knocks him down. Marysia flees into the house).*

## SCENE IV

The same plus **Kutorha**

**Kutorha.** Oh, you rascal! *(Getting to his feet).* You heathen Tatar! You've knocked me down as Chadkevič knocked down the Swedes at Kurholm. Just you wait! I won't forget this in a hurry. I'll show you what's what — if not by Saturday, then on some latter day! *(Greets the guests).* Good afternoon Mr. Pratasavicki! Hello, Mrs Pratasavickaja! *(Kisses her hand),* I hope you are well. You certainly look it, thank the Lord. Blooming and well. Sound as a bell! But I've got some important news for you. The Assessor has just arrived and Lord preserve us, he's in such a temper. Like a wicked Tatar! As soon as he reached our neighbourhood and stopped at Berka he shouted straight away: «Beadle! Constables! Get all the gentry together at Pratasavicki's house. And Ivan Ciuhay-Lipski with his son must come too!"

**Cichon:** Horse-radish sting your eyes! There's trouble brewing, for sure... This dog Lipski filed charges against me because I walloped him. That's why the Assessor is here. They'll take me for all I've got!

**Kutorha.** No wonder! That's why he's an Assessor! His reach is longer than other people's. And you know his proverb: White can always be argued into red!

**№ 3**

*If you once let in a lawyer,*
*He will clean your house out for you,*
*He will work such mighty wonders,*
*Get his hooks in you to plunder!*
*Scratch your head sore in your terror,*
*But you'll not undo your error!*
*He'll rack you with torments mighty!*
*The old proverb puts it rightly:*
*Goat rips willows in the spinney,*
*Wolf rips goat to make his dinner.*
*Peasant Ivan rips the wolf,*
*Squire rips Ivan — that's the truth,*
*Squire's ripped by a lawyer evil.*
*Who rips him? Three hundred devils!*

**Cichon:** Horse-radish sting your eyes! It's easy to crack jokes when you've no problems round your neck. Better if you told me what to do? Mr. Kutorha, you're so well-read— you can give me some intelligent advice.

**Kutorha:** And how would you take it if I asked for Marysia's hand?

**Kulina:.** For God's sake, Mr. Kutorha. She's still a green child.

**Cichon:** Devil a child she is when she's kissing lads!

**Kutorha:** So what are we waiting for? As they say, it's a bad bargain owning something when: you wash it and worry, and then have to hurry to find someone to pay to take it away.

**Cichon:** Fine, Mr. Kutorha. Take my daughter and I'll give her a dowry but please just do me this favour— get me out of this trouble!

**Kutorha:** Like a hog from a bog.

**Cichon:** Well then, give me your advice, Mr. Kutorha. You're a man of experience — you've been in court so often!

**Kutorha:** Well, I'm willing to do you a good turn, but what if your daughter gets some bee in her bonnet and takes against me? You know what the proverb says: «Though you give chase — you won't get an embrace!"

**Cichon:** Don't worry, don't worry, Mr Kutorha. You'll be able to manage Marysia — an intelligent chap like you. Just woo her nicely — and she'll melt.

**Kutorha:** You know what, Mr. Pratasavicki? When the Assessor gets here I'll bear witness for you; although I didn't see it, I'll testify that Ciuhaj-Lipski hit you, and you only acted in self-defence. Marysia's well worth a bit of perjury! Only Mrs. Pratasavickaja, please send Marysia here so I can speak to her and talk a bit of nonsense — so she's not ashamed of an intelligent chap like me.

**Kulina:** Just help my husband and Marysia will be yours! I myself will talk some sense into her ears. Come, Cichon, we must prepare to receive His Honour the Crowner in proper style. And you, Kutorha, wait here — I'll send Marysia out to you. *(Exit with Cichon).*

## SCENE V

**Kutorha** *(solus)*

**Kutorha:** Well, thank the Lord, I've managed to pull the wool over the parents' eyes! Now, let me think how best to bamboozle the girl! She's certainly a tasty morsel. *(Kisses his fingers as if tasting).* Face like the bright sun, cheeks like ripe raspberries, lips like coral, and when she laughs with that silvery voice and shows her teeth — why it's like two strings of pearls. With a respectable dowry too — she's her parents' only child in the family; her father can measure his money by the bushel. The cow-byre is full, the house is well-found and the barn richly stocked. As the saying goes: «When the cow-byre's leaking, the Missus cooks pancakes that day — but when the barn's leaking, the Master starts running away!» So she can have a pancake-party every day! There's a bit of an age-gap, true — I'm in my sixties and she's just seventeen. That could cause quite a few problems — heigh-ho! Young people swarming all over the house like bees! Well, what can one do? I won't be the first, or the last — the world is full of foolish old men! But to pick such a beautiful — and rich — flower, it's well worth wading through mud.

№ 4

*Take a risk in age, and sorrow*
*All too often's apt to follow!*
*If your wife is young and pretty,*
*Then you must — no help for it — be*
*A philosopher — and heed this:*
*Don't look when to look is needless.*

(He puts his fingers to his head, making horns)

*If pears o'er your head are showing*
*Think of them as long ears growing,*
*Wife at night outdoors goes creeping —*
*Shut your eyes, pretend you're sleeping!*
*And like heaven will your life be:*
*Everything you want your wifey*
*Will give to you, stinting never.*
*With love for you growing ever,*
*She'll say: my man, though he's ageing,*
*Is so sweet and acts so sagely!*

Well, well. If you want to a peaceful life in this intelligent modern world, you need to be a philosopher. Here comes Marysia. What a beauty she is! Just to look at her makes the mouth water. Well, go to it, Kutorha, start wooing!...

## SCENE VI

**Marysia** and **Kutorha**

**Kutorha** (*putting on a sweet smile).* Good afternoon, Miss Maryana.

**Marysia** (*shy).* Good afternoon, Mr. Kutorha.

**Kutorha.** How beautiful you look, Miss Maryana, what a fresh little face, like a rose from a bouquet. How impatiently I've been longing for the moment when I could kiss this hand. *(Approaches her with comic and kisses her hand. Marysia steps back and wipes the hand with a handkerchief.* Miss Maryana, Can't you feel, don't you know, how deeply I love you, how I'm longing for you.

№ 5

*My heart to that beautiful rosebud is hasting,*
*Just like a run-away waggon it's racing.*
*For Miss Maryana my soul's ever sighing,*

*Just like a cuckoo-bird mournfully crying.*
*Without her, life is a graveyard of anguish*
*My poor head is heavy, and strengthless I languish.*
*Like bast shoe near the stove I wither, I wither,*
*Who can bring solace? My fare is so bitter!*
*Like partridge out in the woods mournfully crying,*
*So for Miss Maryana my poor heart is sighing,*
*Nor sausage, nor pottage nor offal can cheer me —*
*Nothing tastes good without you, my sweet dearie!*
*I shall buy you a fob-watch as big as a turnip,*
*To hang near your heart, ticking loud, late and early,*
*So you will recall how I pine away, truly,*
*And how day and night never will bring peace unto me!*

**Marysia.** *(Interrupts).* And d'you know, Mr. Kutorha, what causes this despair? Old age. You're well on in years, and it's time to stop thinking about girls, and to start praying about heaven!

**Kutorha:** *(angry)* Old! Old!

**№ 6**

*You call me old — well, I'm mature —*
*Still handsome, though, and strong for sure,*
*And with a love strong and unswerving*
*All my days I'll truly serve you,*

*A youth oft speaks insincerely,*
*You'll not find good faith there, clearly:*
*He'll vow he is your true lover,*
*Then go flirting with another!*

**Marysia:**

*I don't need a lover agéd,*
*To my dear my heart's engagéd,*
*For an old man, 'stead of frolics,*
*Is all coughs and groans and colics.*

**Marysia:**

*My Hryška's the lad who suits me,*
*Young and handsome, a real beauty.*
*Look: my soul runs forth to meet him,*
*Heart beats stronger for to greet him.*

**Kutorha:**

*Then go flirting with another.*
*Young Hryška speaks insincerely,*
*You'll not find good faith there, clearly:*
*He'll vow he is your true lover*

*(While they are singing, the Assessor and his clerk enter and hide to eavesdrop)*

**Kutorha:** Ha! That dog Hryška! He's stuck to you like a leech, but nothing will come of it. Your father has promised me your hand in return for my giving evidence against Ciuchaj-Lipski. His Honour the Crowner has come to Ciuchaj's charge of assault against your father. If you marry me I'm willing to perjure myself and state on oath that your father did not hit Ciuchaj. But if you turn me down, then I'll turn witness for the other side. If someone falls into the clutches of a lawyer, the lawyer'll suck him dry, like a vampire sucking an innocent maiden! And even if your father manages to convince His Honour the Crowner that he's innocent, that won't be the end of his troubles. You know how the saying goes: «The devil ends your woes — but then: For one woe gone, you now have ten!» If the case goes to court, then the lawyers will toss him about like a mushroom drying on hot ashes, until he renounces all he has!

**Marysia:** You can't scare me! Hryška and I will plead with His Honour the Crowner, and he'll get our parents to make peace, and you'll get your just deserts for perjury!

**Kutorha:** What? D'you think I'm afraid of the assessor. I'll raise so much steam for him that he won't remember where the eels go in the winter-time. I'm an experienced man, and intelligent! I'll sort him and drive him into the fields like hounds chasing a hare!

## SCENE VII

The same with **Kručkou** and **Pisulkin**

*Kručkou approaches him and seizes him by the shoulder. Pisulkin sidles up to Marysia, who bows shyly and fearfully.*

**Kručkou.** So you are planning to drive me into the fields? And to teach me where eels go in the winter time? Just you wait, my dear fellow! I'll teach you what happens to people who commit perjury! Hey, Beadle!

**Kutorha** (*panicking*). Oh, Your Serene Highness! Your Excellency! Your Honour! I was just making a joke — to try and scare this silly girl into marrying me! Her parents have given the match their blessing, but she won't have me — so that's why I told her this taradiddle!

**Kručkou.** And will your evidence also be a taradiddle? Do you know what that would mean? According to the decree of Peter the Great, 1779 August the 10th and the Lithuanian statute, section 3, paragraph 375 this is classified as a criminal offence. That means Siberia, my dear fellow, Siberia. Hey, Beadle! *(Beadle enters).* Put this chap in a separate room and make sure he gets to see no one nor, God forbid, cooks up a story with the householder.

**Kutorha** *(Exiting with the Beadle):* Your Excellency: For God's sake, don't destroy a poor man. My tongue ran away with me. As the saying rightly goes: «The mill runs and the flour flows forth; the tongue runs — there comes woe and wrath!» I beg you, forgive my folly!

**Kručkou.** Your folly? But you are an experienced chap and a moment ago you were boasting of your intelligence.

**Kutorha** *(From the side door).* Devil take this intelligence, when it gets me into trouble so unwittingly like the Swedes at Poltava. *(Exit together with the Beadle).*

## SCENE VIII

The same without **Kutorha**

**Kručkou.** Well, Mr. Pisulkin. Better stop flirting and get down to work. We've got a rich harvest here. Hey, Beadle! *(Beadle enters).* Put a table in the middle here and cover it with the court cloth! *(Beadle carries out the order).* The weather's fine today, so we can work outside. Sit down, Mr. Pisulkin, and get your papers ready.

*(Pisulkin ceremoniously seats himself, opens his ink-bottle, arranges his papers, some of which he gives to Kručkou, who seats himself at the table with his back to Pisulkin).*

**Kručkou** *(addresses Marysia):* Well, come here, closer and tell me the truth — you can see my moustache is not standing up, so I'm not in a temper — so tell me: do you love Hryška Lipski?

**Marysia** *(Shyly and plucking at her apron).* Well... er.......

**Kručkou.** What made you fall in love with him?

**Marysia.** I don't know myself. Something came into my heart. But how could I fail to love him — a young, handsome lad with a golden heart.

**Kručkou.** So, do you want to marry him?

**Marysia** *(Shyly):* Yes, I do. And if I can't marry him, then I'll live and die a miserable old maid. Your Honour! Please, have mercy upon us and help us to live happily ever after. *(Bows).*

**Kručkou.** So what do you want from me?

**Marysia.** Your Honour, settle this business between our fathers, not with a court case, but according to Christian teaching. Smooth things over between them,

make them stop strutting about like turkey-cocks, and get them to let us marry. Your Honour! *(Bows lower and says sorrowfully).* Although you're a man of law and an official, you surely believe in God, so for God's sake, let us live happily every after, and all out lives we'll pray for you, and your children and grandchildren.

**Kručkou.** Well, well, my dear, put your mind at rest... Although, as you say, I am a man of law, I'm a Christian and Ill settle their dispute according to Christian teaching. I'll even dance at your wedding. Hey, Beadle! *(Beadle enters).* Have all the local gentry arrived yet?

**Beadle.** Yes. They're all here — one with a hen, another's brought a keg of honey, and some have brought dried fish. They're all waiting for Your Honour's instructions...

**Kručkou.** Good. Have them give everything to the coachman and make sure he packs it all properly. Also ask Cichon Pratasavicki and his wife to come here. Have Ciuchay-Lipski and his son arrived?

**Beadle.** Ciuchay is here with honey and fish, and on top of that ten strings of dried mushrooms too! And his son has brought smoked eels.

**Kručkou.** Good! Good! Have everything packed up carefully! Then call everyone here!

*Exit Beadle. Kručkou assumes a serious expression, he points one side of his moustaches up and the other down. The local gentry enter from the rear, fearfully, bowing low, and trying to hide one behind the other. Cichon Pratasavicki and his wife enter from the side. Marysia meets Hryška at the rear of the stage, they whisper quietly together.*

## SCENE IX

The same with Cichon **Pratasavicki**, his wife, **Ciuchay-Lipski** with his son, **Cimoch Alpenski**, Bazyl **Statkevič** and **other gentry**

**Cichon.** Wife, hey, wife! There's trouble brewing. Look how one of his Honour the Crowner's moustaches is standing upright and the other is pointing downwards! You go first and bow to him — horseradish sting his eyes!

**Kulina.** Why send me? You brewed the beer — so now you have to drink it. And I'm scared!

**Cichon.** You, woman — horseradish sting your eyes! He's not going to eat you! Take this money — look, there are five tenners — bow to him respectfully and put the money on the table. He's a man of law — he won't refuse money — and that will grease things along.

**Kulina.** Well, what's to do? I'll try. *(She fearfully approaches the table, puts the money on it, then bows low before the Assessor).* Your Honour...

**Kručkou.** Quiet! *(Kulina is terrified, she hides behind her husband. Holding a paper, Kručkou stands up and without looking at the gentry begins reading).* In accordance with the Edict of the district court of Pinsk on May 23rd of this current

year regarding case ą 2312 I have come to this neighbourhood to hold an inquiry into a criminal case of assault and battery, committed against one Ivan Ciuchay-Lipski by one Cichon Pratasavicki ... Lipski, do you have witnesses?

**Lipski.** I do, Your Honour!

**Kručkou.** Let them stand forward. (*Three of the gentry step forward*). Pratasaviski, for what cause did you strike him!

**Cichon.** Because he called me a peasant — horse-radish sting his eyes!

**Kručkou.** Have you witnesses?

**Cichon.** Yes I do. Kutorha!

**Kručkou.** He is ineligible to give evidence, since he's due for trial himself. *(Turning to Lipski's witnesses).* Did you see how Pratasavicki hit Lipski?

**Three witnesses** *(Bowing fearfully):* Yes, we did, your Honour.

**Kručkou.** *(Addressing the rest of the gentry).* And what about you?

All the remaining gentry. No, we saw nothing, Your Honour.

**Kručkou.** Well then, good! The investigation is concluded. Now we shall proceed to the trial. But firstly, according to the edict of her Imperial Majesty Elizabeth dated April 49-th 1895 and of her Imperial Majesty Catherine the Great dated September 23-rd, 1903, and likewise according to the Lithuanian statute, section 8, Paragraph 193 which obliges all parties to a case to pay the costs, the defendant Pratasavicki must immediately pay 20 roubles to cover legal costs, 16 roubles for travel costs and 10 roubles for the chancellery. The plaintiff Lipski must pay half of that, the witnesses who saw the affray but failed to intervene must pay 9 roubles each, and the rest of the gentry, who did not witness the affray must pay 3 roubles each for having failed to witness it. So, pay up please! *(Sits down and begins to write, the gentry converse in whispers. They choose Cimoch Alpienski to collect the money; he goes to Pratasavicki, Lipski and the other gentry, collects the money in a bag puts it on the table).*

**Cichon.** *(After counting out his money to Alpienski, who then proceeds with the collection).* Eh... Look at that! How he brings out these edicts and laws to afflict us — as easy as eating a turnip, without the least hesitation! Horse-radish sting his eyes!

**Kulina.** Well, what do you expect? He is a man of law — he cut his teeth on all that! That's the breed of him!

*(Alpienski puts the money on the table)*

**Kručkou.** You've got it all?

**Alpienski.** Down to the last kopek, Your Honour!

**Kručkou.** Right, you are dismissed. The decree will be announced in a moment!

**Cichon.** Oh dear Lord! Whatever will happen– horseradish sting his eyes?!

**Kulina.** Whatever will happen? Look, he's a man of law — he'll fleece everyone and then trot off nicely home.

**Cichon.** Horse-radish sting his eyes — at least let him leave us a whole skin, because if he once lays a finger on that, there will be some unclean interest.

